НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 25 (766) 4 ліпеня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Ён СуперМарыя

Цяжкое дзіця італьянскага футбола. Старонка 9.



## Колькі зарабляюць мае аднакласнікі

Мары і рэальнасць: як нас разводзіць жыццё. Старонка 7.

# Васямнаццаць мне ўжо

18 гадоў кіравання Лукашэнкі — вырасла **цэлае пакаленне**. Старонкі 3—4.



Рэпетыцыя параду 3 ліпеня.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## 7 балаў: добра, але мала

Выпускнікі з ведамі на «1» і «2» таксама **могуць паступіць** у ВНУ.

Сёлета 11 тысяч абітурыентаў на тэстах па матэматыцы набралі менш за 7 балаў. З іх каля 800 чалавек не рашылі ніводнага задання. Гэтым яны фактычна выключылі сябе з ліку будучых студэнтаў эканамічных, тэхнічных і ваенных спецыяльнасцей.

Справа ў тым, што сёлета ўстаноўлены ніжні парог тэставага бала для паступлення ў ВНУ — 7 балаў. У абітурыентаў, якія маюць у сертыфікатах ЦТ 1–6 балаў, дакументы ў ВНУ прымаць не будуць. Але яны змогуць паступаць у ПТВ.

Фізіку «завалілі» амаль 4 тысячы абітурыентаў. 41 чалавек атрымаў 0 балаў.

Пры гэтым, каб атрымаць жаданыя 7 балаў, на тэстах па фізіцы ці матэматыцы дастаткова было выканаць 3–4 заданні з 30 магчымых. Журналісты даказалі, што нават пры адвольным запаўненні тэста бывае магчыма набраць 15 балаў са 100.

Чаму школьнікі «не сябруюць» з навукай? «Вынікі ЦТ па фізіцы з года ў год нізкія, — кажа настаўнік фізікі сталічнай гімназіі №23 Валерый Шынкароў. — У дзяцей няма жадання вучыцца. Нават калі параўноўваць з тымі, што выпускаліся 5 гадоў таму, прага да ведаў значна меншая. А адзіным «матывам» нешта рабіць застаецца прымус бацькоў».

Працяг на старонцы 2.

**Воля і пятля**

### Пачобут: «Не думаў, што з турмы так лёгка выйсці»

Абвінавачванне не знялі. **Старонка 2.**



**Здарэнні**

### Унук Арцымені справакаваў страшную аварыю

Адзін чалавек загінуў. **Старонка 10.**



**In memoriam**

### Памёр Сяржук Вітушка

Кіраўніку легендарнай «Талакі» было 47 гадоў. **Старонка 11.**



**Здароўе**

### Колькі каштуе палячыць зубы

Кошты паслуг папулярных стаматалагічных клінік. **Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Пачобута адпусцілі пад падпіску: «Ніколі не думаў, што з турмы так лёгка выйсці»

Экспертызу яго артыкулаў рабіў **палітолаг Кізіма**.



Журналіст Андрэй Пачобут за брамай турмы з дачкой і жонкай.

Андрэя Пачобута выпусцілі з турмы 30 чэрвеня. З актывістам беларускіх палякаў, карэспандэнтам Gazeta Wyborcza пагутарыў журналіст «Нашай Нівы»:

**«Наша Ніва»: Як усё адбывалася?**

**Андрэй Пачобут:** Недзе пасля абеду ў камеру прыйшоў супрацоўнік, які паведаміў, што мяне пераводзяць у іншую камеру. Прывялі на першы паверх турмы. Думаў, што там і застануся, бо на першым паверсе самы жорсткі кантроль. Тым не менш, дзяжурны з ветлівай усмешкай (здаецца, яму было гэта прыемна) зачытаў мне, што я вызваляюся пад падпіску пра нявыезд. Ніколі не думаў, што з турмы так лёгка выйсці. Калі сядзіш у ёй, то, падаецца, тут столькі замкоў, дзвярэй і кратаў.

**«НН»: Спадзяваліся на вызваленне?**

**АП:** Вядома, не. Мне ў суботу раніцай прад'явілі абвінавачанне па артыкуле 367 частка 2 «Паклён на прэзідэнта». Максімальны тэрмін паводле яго 5 гадоў турмы. Плюс яшчэ трэба дадаць папярэдняе зняволенне — два гады і дзевяць месяцаў. То бок быў гатовы, што магу атрымаць 7 гадоў і 9 месяцаў. Крыху ашалеў, калі пачуў, што адпускаюць.

**«НН»: Жонка казала, што Вы чакалі арышту.**

**АП:** Недзе месяц таму я атрымаў інфармацыю, што па маіх артыкулах прызначаная экспертыза. Запатрабавалі таксама маю характарыстыку. З іншага боку, думаў, што гэта можа быць проста псіхалагічны ціск. Спроба запалохвання. Калі дадому прыйшоў следчы Нікольскі, то я зразумеў, што мая інфармацыя была праўдзівай. Запытаўся толькі, які артыкул, на што пачуў: «Той самы». Я, дарэчы, тады пісаў матэрыял пра Алеся Бяляцкага.

**«НН»: Хто праводзіў экспертызу матэрыялаў?**

**АП:** Праводзілі яе ў БДУ. Запомніў прозвішча Мохань, а таксама вядомы дзяржаўны ідэолаг Кізіма. Экспертыза атрымалася больш брутальнай, чым абвінавачванне. Адзначалася, што я не толькі ўзвёў паклён на Лукашэнку, але і абразіў, і «дыскрэдытаваў дзяржаву». Толькі гэтай экспертызы дастаткова, каб мяне пасадзіць.

**«НН»: Арыштам Вас могуць падштурхоўваць да эміграцыі?**

**АП:** Калі стаіць выбар: турма ці эміграцыя, то я выбіраю турму. Я тут нарадзіўся, вельмі прывязаны да гэтай зямлі. Без яе буду адчуваць сябе нядобра.

**«НН»: А як паводзілі сябе міліцыянты, следчыя?**

**АП:** Ніякага ціску не было. Падкрэслена культурна, ветліва. Толькі нядаўна даведаўся, што сядзеў у адзіночцы, бо быў адзіным падазраваным у турме. А па законе трэба, каб асобна сядзелі абвінавачаныя, асобна асуджаныя, асобна падазраваныя. Калі пайшла пагалоска, што я ў адзіночцы, да мяне пасадзілі хлопца з прозвішчам Латушка. Нармальны хлопец.

**«НН»: Як умовы ў турме? Не змяніліся?**

**АП:** Не, зусім. Хаця, калі трапляеш туды не першы раз, то не ўсё так страшна. Прынеслі абед, дык нармальная ежа. Чаго першы раз яна мне падалася такой кепскай *(смяецца)*?

**«НН»: Ці думалі, што цяпер будзеце рабіць?**

**АП:** Так, я абвінавачаны, але на маю дзейнасць гэта ніяк не паўплывае, буду працаваць.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# 7 балаў: добра, але мала

**Працяг са старонкі 1.**

Выклікаюць нараканні і падручнікі па фізіцы. «Мы не вучым дзяцей рашаць задачы!» — скардзіцца настаўнік.

На яго думку, уведзенне мінімальнага парога ў 7 балаў для паступлення ў ВНУ — ініцыятыва добрая, але недастатковая. 7 балаў адпавядаюць адзінцы па дзесяцібальнай сістэме. Выходзіць, выпускнікі з ведамі на «1» і «2» могуць паступіць у ВНУ. Гэта заніжае агульны ўзровень студэнтаў.

**Аксана Рудовіч**

Зніжэнне планкі набору адстойваюць ВНУ, бо гэта дае ім магчымасць зарабляць на платніках. Але такі падыход дэвальвуе беларускія дыпломы.

**Табліца. Колькасць вучняў, якія «завалілі» тэсты:**

| Прадмет | Атрымалі менш за 7 балаў | Атрымалі 0 балаў | Усяго здавалі |
|---|---|---|---|
| Беларуская мова | 1160 | 1 | 45200 |
| Расейская мова | 3300 | 3 | 95900 |
| Матэматыка | 11000 | 796 | 95200 |
| Фізіка | 3915 | 41 | 44100 |
| Хімія | 30 | 3 | 16700 |

## Сапраўдны настаўнік!

**Сяргей Балаханаў** з Гомеля здаў тэставанне па гісторыі на 100 балаў.

Настаўнік вырашыў праверыць свае сілы на цэнтралізаваным тэставанні. У якасці прадметаў абраў профільныя гісторыю Беларусі і грамадазнаўства, якія настаўнік, уласна, і выкладае.

«Заданні тэста па гісторыі былі не простымі, а вельмі простымі». З тэстамі настаўнік справіўся на выдатна.

Гісторыю Беларусі ён здаў на 100%, такіх набралася ўсяго 16 чалавек на ўсю краіну. Такім настаўнікам не страшна даверыць дзяцей.

«Увогуле складальнікі тэста — людзі не без гумару. У пытанні пра поўныя палажэнні, якія замацаваныя ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, быў варыянт: «удзел у вайсковых аперацыях НАТА», — жартуе Сяргей.

Сяргей Балаханаў таксама вядомы як пісьменнік. Ён аўтар рамана «Імя грушы». А ў «Нашу Ніву» Сяржук піша ад 2000 года.

**ЗП**


## Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г. Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перaказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190786828

Адрз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012740628011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.


## Сцісла

### Брэсан едзе на Алімпіяду

У канчатковы склад алімпійскай зборнай Беларусі трапілі футбалісты мінскага «Дынама» Алег Вераціла і Станіслаў Драгун, паўабаронца БАТЭ Рэнан Брэсан, а таксама форвард «Крыльляў Саветаў» Сяргей Карніленка. Рэгламент спаборніцтваў дазваляе браць не больш за чатыры футбалісты, старэйшыя за 23 гады.

Футбольны турнір лонданскай Алімпіяды будзе доўжыцца ад 25 ліпеня да 11 жніўня. Матчы групавога турніру: 26 ліпеня — з Новай Зеландыяй, 29 ліпеня — з Бразіліяй, 1 жніўня — з Егіптам. На 24–25 ліпеня ў БАТЭ запланаваны матч у адказ другога кваліфікацыйнага раўнду Лігі чэмпіёнаў супраць македонскага «Вардара». Гульні трэцяга кваліфікацыйнага раўнду галоўнага клубнага турніру Еўропы пройдуць 31-га ліпеня — 1-га жніўня, у адказ — 7–8 жніўня.

### Ураган на Мінскім моры

ламаў дрэвы як запалкі. Бура вырвалася каля 16.00 2 ліпеня. Застрашаныя людзі пабеглі з лесу да вады. На шчасце, ніхто не пацярпеў.



ЗП

## Ну, прыдумалі

### Зніжка 50% для вусатых дзяўчын

Гурт Amaroka ладзіць «Вусатую вечарыну». Яна пройдзе 6 ліпеня ў бары «Салтайм» (праспект Незалежнасці, 131/1).

Нават тых, хто вусоў не мае, музыкі заклікаюць знайсці іх, начапіць і прыходзіць. «Самы вусаты дзень у годзе» мае адзначыцца гранням «запальных беларускіх гуртоў» — Amaroka, I'm Live in Time «ILIT», The Horizon of Events. Пачатак а 19-й.

Уваход платны. Без вусоў — 30 000, для вусатых хлопцаў — 20 000, для вусатых дзяўчын — 15 000.

## Самае чытанае на nn.by 27 чэрвеня — 3 ліпеня

# Васямнаццаць мне ўжо

10 ліпеня спаўняецца 18 гадоў, як **Аляксандр Лукашэнка быў абраны** кіраўніком краіны. За гэты час вырасла цэлае пакаленне беларусаў — скончылі садкі і школы, паступілі ва ўніверсітэты. Даўжэй за Лукашэнку кіруюць Карымаў ва Узбекістане, Назарбаеў у Казахстане. На захад ад Беларусі ў Еўропе так доўга адну выбарную пасаду не займае ніхто.



**1994. Лукашэнка прымае прысягу. Тыя выбары па сёння называюць адзінымі дэмакратычнымі ў гісторыі Беларусі. У першым туры Лукашэнка з 45% галасоў абышоў лідара наменклатуры Вячаслава Кебіча і кандыдата Народнага Фронту Зянона Пазняка.**



**1995. Лукашэнка і Ельцын падпісваюць пагадненне аб супрацоўніцтве. Менавіта інтэграцыя з Расіяй была абраная як прыярытэт у замежнай палітыцы. Праз два гады гэтыя кіраўнікі падпішуць дамову аб стварэнні саюзнай дзяржавы. Пазней ужо з падачы Пуціна Беларусь уступіць у Мытны саюз.**



**1996. Лукашэнка слухае, як грае на жалейцы маленькі хлопчык. У той год Лукашэнка разагнаў парламент і паставіў пад свой кантроль усе галіны ўлады.**



**1997. Лукашэнка з Алегам Румянцавым, прэзідэнтам расійскага фонду канстытуцыйных рэформ. На той момант у Беларусі ўжо былі змененыя сцяг, герб, павялічаныя паўнамоцтвы прэзідэнта.**



**1998. Лукашэнка наведвае Омскую бібліятэку імя Пушкіна. У той час кіраўнік Беларусі актыўна ездзіў па расійскай глыбінцы. Ён спадзяваўся, што зойме крэсла кіраўніка ў Крамлі пасля нямоглага Ельцына.**




**1999. На саміце АБСЕ ў Стамбуле ў перапынку Лукашэнка сам падышоў да амерыканскага прэзідэнта Біла Клінтана. Больш размоваў з амерыканскімі лідарамі Лукашэнка не меў.**



**2000. Кучма, Пуцін, Лукашэнка і патрыярх Аляксій II у Белгародскай вобласці. Не адразу пасля з'яўлення Пуціна Лукашэнка зразумее, што дарога на расійскі трон яму закрыта.**



**2001. Агітацыйная кампанія перад «выбарамі», на якіх апазіцыя паставіла на Ганчарыка.**



**2002. У той год краіна дасягнула сярэдняга заробку ў 100 даляраў. Ёсць магчымасць задумацца не толькі пра выжыванне. На «Славянскім базары ў Віцебску».**



**2003. Першая газавая вайна з Расіяй, мухі і катлеты. «Газпрам» хоча «Белтрансгаз».**

# Васямнаццаць…



2004. Рэферэндум аб трэцім тэрміне.



2005. Масавыя гулянні становяцца неад’емным элементам беларускага жыцця.



2006. Так выглядаў Лукашэнка пасля прэзідэнцкіх выбараў і першай Плошчы. Упершыню за многія гады пратэст быў настолькі моцны і адчайны. Лукашэнка зразумеў, як моцна яго не любяць.



2007. Першы візіт у Венесуэлу. Праз нейкі час Уга Чавэса Лукашэнка будзе называць братам. Да расійскіх кіраўнікоў ён так не звяртаўся ніколі. З Венесуэлы ў Беларусь упершыню прыйдзе нафта, альтэрнатыўная расейскай.



2008. На красавіцкім суботніку ўпершыню з’яўляецца малодшы сын Лукашэнкі Мікалай. Наступныя гады Коля будзе суправаджаць Лукашэнку ва ўсіх паездках.



2010. Занепакоеная збліжэннем Лукашэнкі з Захадам Расія закручвае краны. На саміце АДКБ у Ерэване Мядзведзеў дэманстратыўна ігнараваў Лукашэнку. Зноў цяплець беларуска-расійскія адносіны сталі толькі пасля брутальнага разгону новай Плошчы.



2009. Лібералізацыя. Адносіны з Еўропай палепшалі, санкцыі знятыя. Лукашэнка наведаў Літву і Італію, сустрэўся з Папам. Нягледзячы на сусветны крызіс, у Беларусі адбываецца імклівы эканамічны рост.



2011. Абвал перагрэтага рубля. Дэвальвацыя і рост цэнаў у два-тры разы. У турмах — дзясяткі палітвязняў. Лукашэнка на вечарыне памяці хакеіста Руслана Салея.



2012…

# Многа Колі

Мікалай Лукашэнка часта **фігураваў у навінах** апошняга тыдня.



...Чавэс прапанаваў сказаць некалькі слоў і Мікалаю, аднак ён адмовіўся.



Коля вітаецца з кіраўніком Кубінскай рэвалюцыі. Дакладней, з братам кіраўніка...



...І глядзіць фінал «Еўра» ў Кіеве.

Даслоўна

## Лукашэнка: Ніякай перадачы ўлады ў спадчыну быць не можа

**З выступу** на сходзе, прысвечаным 3 ліпеня.

«Я ўсё больш і больш, асабліва калі з'язджаю з краіны, вяртаючыся, са здзіўленнем чытаю або чую пра тое, што вось тут Лукашэнка — гэта назаўжды, гэта навечна, — сказаў кіраўнік дзяржавы. — У які раз кажу, не апраўдваючыся перад вамі: мае дзеці прэзідэнцтва наеліся пры сваім бацьку. Ніякай перадачы ў спадчыну ўлады быць не можа. Я чалавек быццам бы адносна сціплы, ніколі не кажу, што мне, дзякуючы вам, выпаў гонар быць у гэтай незалежнай дзяржаве першым прэзідэнтам, вашым прэзідэнтам. Я ўсё памятаю. Колькі было бойкі, колькі было прагнозаў і колькі было магчымасцяў акунуць краіну ў хаос. Я тады сам сабе паабяцаў: я першы прэзідэнт, пасля мяне будуць іншыя, і я павінен зрабіць так, каб нікому не захацелася чыніць несумленна. І калі я буду сябе паводзіць несумленна, і калі я буду сябе паводзіць як многія іншыя алігархі вакол нашай краіны, у кожнага прэзідэнта пасля мяне будзе спакуса паўтарыць гэта. Я першы прэзідэнт, ваш прэзідэнт і я проста не магу сабе гэтага дазволіць!»

**Паводле БелТА**

І ў той жа час

## «Ёсць каму пераняць эстафету гадоў праз 20–25»

**Кіроўныя дынастыі** ў свеце.

Наведваючы Венесуэлу, Лукашэнка загаварыў пра пераемніка. «Тут знаходзіцца мой сын Мікалай, і гэта сведчыць аб тым, што мы сур'ёзна і надоўга заклалі асновы супрацоўніцтва і ёсць каму пераняць эстафету гадоў праз 20–25», — сказаў кіраўнік дзяржавы.

Гэта не першы раз, калі Лукашэнка кажа, што Коля будзе здольны пераняць прэзідэнцтва. Вядома, што кіраўніцтва краінай пераходзіць ад бацькі да сына ці іншых сваякоў у манархіях, аднак не ў рэспубліках. Хаця і такія выпадкі не настолькі рэдкія.

### Ірак

У іракскага дыктатара Садама Хусэйна было два сыны — Удэй і Кусэй. Першы ўзначальваў алімпійскі камітэт Ірака, іракскі саюз журналістаў і саюз іракскай моладзі, быў рэктарам універсітэта імя Садама Хусэйна. Living Рознабаковая асоба. Таксама ён кантраляваў некаторыя мясцовыя газеты і радыёстанцыі.

Удэй быў апантаны раскошай і багаццем, а таксама прыгожымі жанчынамі. Калі ён стаў дэпутатам парламента, то пачаў ставіць сваіх людзей на ключавыя пасады у сілавых ведамствах.

Кусэй быў маладзейшы за Удэя. Ён узначальваў іракскія спецслужбы і Рэспубліканскую гвардыю. Менавіта яго разглядалі як пераемніка Садама.

У адрозненне ад старэйшага брата, Кусэй не трапляў у скандальныя гісторыі, быў спакайнейшага нораву. На ўсіх пасяджэннях Кусэй сядзеў побач з бацькам.

Абодва браты загінулі ў 2003, ваюючы супраць амерыканцаў.

### Сірыя

Хафэз Асад памёр у чэрвені 2000 ад сардэчнай недастатковасці. Ужо на наступны дзень яго сына Башара прызначылі галоўнакамандуючым сірыйскага войска.

Каб стаць прэзідэнтам, парламент знізіў узроставы цэнз на прэзідэнцтва з 40 да 34 гадоў. Башар Асад двойчы праводзіў рэферэндумы, каб застацца прэзідэнтам (выбараў не было ніколі). Абодва разы ён атрымліваў 97% падтрымкі.

Башар Асад стаў разглядацца як пераемнік Хафэза толькі пасля гібелі старэйшага брата Баселя. Да гэтага Башар займаўся медыцынай.

Цяпер Сірыя знаходзіцца ў стане грамадзянскай вайны, але Башар Асад не збіраецца аддаваць уладу. Фактычна, ён апынуўся найбольш моцным кіраўніком сярод краін, дзе пракацілася «арабская вясна».

### Лівія

Сейф аль-Іслам Кадафі, першы сын ад другога шлюбу, успрымаўся як пераемнік Палкоўніка. Скончыў Лонданскую школу эканомікі і палітычных навук.

Ён быў адным з аўтараў «лівійскай лібералізацыі», дзякуючы якой ў краіне пачаліся эканамічныя перамены, палепшалі адносіны з Еўропай.

Калі пачаліся баявыя дзеянні, то Сейф шмат ездзіў па краіне, кіраваў вайскоўцамі, рабіў гучныя заявы. Пасля перамогі паўстання яго арыштавалі на самым поўдні краіны, каля мяжы з Нігерам. Групоўка, якая арыштавала Сейфа, утрымлівае яго ў турме і адмаўляецца перадаць у Міжнародны крымінальны суд для працэсу па справе аб вайсковых злачынствах.

А вось іншы сын Кадафі, Хаміс, што ўзначальваў сілавыя структуры, загінуў у баі. Загінулі і два іншыя сыны гарачага рэвалюцыянера Муамара. Яшчэ тры сыны і дачка знайшлі прытулак за мяжой.

### Азербайджан

А вось прыклад з постсавецкай прасторы. Ільхам Аліеў — сын Гейдара. Ільхам паступіў у Маскоўскі інстытут міжнародных адносінаў яшчэ 15-гадовым.

Гейдар Аліеў ад 1969 быў кіраўніком савецкага Азербайджана. Да гэтага ён узначальваў КДБ СССР. З прыходам да ўлады Андропава Аліева перавялі ў Маскву. Нейкі час па развале імперыі Гейдар быў кіраўніком роднай Нахічавані, але ў 1993 зноў вярнуўся да ўлады.

У 2003 Гейдар Аліеў памёр. Наступныя прэзідэнцкія выбары выйграў яго сын Ільхам. Краіна валодае вялікімі запасамі нафты, таму бум цэнаў на энерганосьбіты зрабіў Азербайджан выключна багатым.

### КНДР

Апошні прыклад зусім нядаўні. У снежні пасля смерці Кім Чэн Іра вышэйшым кіраўніком КНДР стаў ягоны сын Кім Чэн Ын. Пачынальнікам дынастыі быў дзед Ына Кім Ір Сэн.

КНДР — адна з найбяднейшых краін свету. Рэжым Кімаў мала розніцца ад сталінскай сістэмы. Як і пры Сталіну, у краіне перыядычна здараецца голад. Але Кімам пакланяюцца, як фараонам.

**ЗП**



Удэй і Садам Хусэйны.



За Асадаў галасавалі 95%, пакуль не выбухнула паўстанне.



Сейф аль-Іслам Кадафі пазбег смерці, але не турмы.



Бацька Ільхама Гейдар быў кіраўніком яшчэ савецкага Азербайджана.



У Паўночнай Карэі кіраўнікам пакланяюцца, як фараонам.

# Тапузідзіс дабудоўвае свой «Замак» насупраць рэзідэнцыі

**Будынак стане самым вялікім гандлёвым цэнтрам Беларусі.**

На 3 ліпеня ў Мінску быў запланаваны ўрачысты ўвод у эксплуатацыю велічнага «Замка» тытунёвага мільянера Паўла Тапузідзіса. Гандлёва-забаўляльны цэнтр арыгінальнага выгляду паўстаў проста насупраць новай рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы. У запланаваны час будаўнічыя працы так і не скончыліся. Відаць, «Замак» абслужыць першых наведнікаў у адну з наступных святочных дат.

«Наша Ніва» выбрала топ-5 цікавых фактаў пра грандыёзную будоўлю.

### Палац гандлю

93 тысячы квадратных метраў агульнай плошчы, траціну з якіх будуць займаць гандлёвыя пляцоўкі, робяць «Замак» рэкардсменам сярод гандлёва-забаўляльных цэнтраў краіны. Фармат будынка прадугледжвае, што сям'я будзе прыязджаць сюды раніцай і выбірацца дахаты познім вечарам. Забавак мусіць быць столькі, каб усім пакаленням хапіла на цэлы дзень. Гуляць — дык на шырокую руку, вырашыў Павел Тапузідзіс.

Такім чынам, першы паверх зоймуць гіпермаркет «Карона» і яго «брат» па продажы тэхнікі «Карона-Тэхна». На другім і трэцім — крамы моднага адзення, кавярні, банкі і салон прыгажосці.

Пад зводамі «Замка» ў найлепшых традыцыях заходніх гіпермаркетаў зойме свае месца забаўляльны комплекс. Тут адкрыюцца начны клуб з трыма барамі, казіно, рэстараны аж на 1,5 тысячы чалавек, кінатэатр з трох залаў, зала гульнявых аўтаматаў і атракцыёны.

Але галоўная навінка — лядовая пляцоўка. У Еўропе без невялікай коўзанкі не абыходзяцца багатыя забаўляльныя цэнтры, цяпер мода перакідваецца і на Беларусь. Коўзацца можна цэлы год.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Інтэр'еры ў «Замку».

**Самыя вялікія гандлёвыя цэнтры Мінска:**

**пабудаваныя**

«Замак» — 28 000 кв.м*

«Сталіца» (пад плошчай Незалежнасці) — 21 100 кв.м

«Карона» (на Кальварыйскай) — 10 050 кв.м

«Еўропа» (на Сурганава) — 9 785 кв.м

ЦУМ — 8 825 кв.м

*плошча гандлёвых тэрыторый (паводле звестак Мінгарвыканкама)

**у будоўлі і праектаванні**

«Магніт Мінска» (каля Нацыянальнай бібліятэкі) — 34 300 кв.м

«Чэрвеньскі» (на месцы рынку) — 32 500 кв.м

«Маяк Мінска» (каля Нацыянальнай бібліятэкі) — 25 200 кв. м

Аўтавакзал «Цэнтральны» — 24 600 кв.м

Гіпермаркет Юрыя Чыжа (метро «Каменная Горка») — 21 000 кв.м

### Танная копія Крамля

Гандлёвы цэнтр мусіў выглядаць падкрэслена «па-багатаму» і ўнутры, і звонку. «Архітэктурнае рашэнне спалучыла ў сабе эфектыўнасць тэхналогій і вобраз сучаснага чатырохпавярховага будынка з этнічнымі элементамі беларускіх замкаў», — гаворыцца на сайце кампаніі. Здалёк будынак выглядае больш велічным, чым зблізку, хоць у любым выпадку не падобны да сапраўднага замка. Калі ж паглядзець уважліва, «замкавыя» сцены з чырвонай цэглы насамрэч аказваюцца бутафорскімі пластыкавымі панэлямі, пафарбаванымі пад цэглу. Прычым гэтыя роўныя квадратныя панэлі прыклеілі акурат там, дзе ідзе закругленне фасада. Нездарма скептыкі называлі «Замак» таннай копіяй Крамля.

### Прэстыжнае месца

«Замак» знаходзіцца на праспекце Пераможцаў, каля транспартнай развязкі з вуліцай Арлоўскай. Надзвычай выгаднае геаграфічнае становішча — дабрацца сюды на аўтамабілі лёгка з любой часткі горада — дапаўняецца прэстыжным суседствам. Адсюль не больш за 200 метраў да выставачнага цэнтра «БелЭкспа» і, галоўнае, да новай рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы, якую будуюць ударнымі тэмпамі. Такую магчымасць даюць не кожнаму.

Дарэчы, для кіроўцаў прадугледжаны шасціўзроўневы бясплатны паркінг на 2000 месцаў. Стаянка будзе без сценаў, таму не варта спадзявацца, што ў «Замку» ўзімку ўдасца адагрэць замерзлы аўтамабіль.

### Чый «Замак»?

Падрадчык «Замка» — кампанія «Тытунь-Інвест», якой валодаюць два непублічныя бізнэсоўцы. Калі асоба Паўла Тапузідзіса, мільянера з грэчаска-грузінскімі каранямі, усё ж раз-пораз узгадваецца ў СМІ, то імя ягонага кампаньёна Віктара Пятровіча цалкам ахінутае тайнай. У іх бізнэс-імперыю ўваходзіць вытворчасць цыгарэтаў «Тытунь-Інвест», гіпермаркеты «Карона» ў Мінску, Брэсце, Бабруйску і Віцебску, верталётны клуб у Ратамцы на беразе Мінскага мора...

У часе прэзідэнцкай кампаніі-2010 Павел Тапузідзіс быў старшынёй выбарчай камісіі на адным з мінскіх участкаў. Дэлегаваў яго «працоўны калектыў бухгалтэрыі ААТ «Тытунь-Інвест».

### Кіраўніцтва справаў і «Лідо»

У многіх дакументах «Замак» фігуруе пад іншай назвай — «Мінск-Лідо». Замоўцам будынка з'яўляецца аднайменнае ЗАТ. А вось брэнд «Лідо» ў Беларусі належыць непасрэдна Кіраўніцтву справаў прэзідэнта.

Латыш Гунарс Кірсанс, уладальнік сеткі хуткага харчавання ў сябе на радзіме, у 2004 адкрыў рэстаран на плошчы Якуба Коласа ў Мінску. Неўзабаве адзіным уласнікам «Лідо», якое пераўтварылася ў рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства, стала Кіраўніцтва справамі прэзідэнта. За брэнд былі Кірсансу заплачаныя немалыя грошы — $1,5 мільёна.

Цікава, што яшчэ ў 2003 сталічныя ўлады абвясцілі, што ў Мінску будзе пабудавана як мінімум два «Лідо». Анансаваны, але нерэалізаваны «вялікі комплекс грамадскага харчавання па праспекце Машэрава» на 1300 пасадачных месцаў — гэта і ёсць «Замак» Тапузідзіса. Застаецца здагадвацца, як тытунёвы магнат змог выкарыстаць брэнд, правам на які валодае Кіраўніцтва справамі прэзідэнта.

**Ягор Марціновіч**

## Цэны на кватэры ў Мінску*, $




*указаны сярэдні кошт прапановы квадратнага метра паводле звестак Realt.by. У рэальных угодах цана меншая на $50—70.

## Сцісла

### $500 тысяч Шакуціна

Старшыня рады дырэктараў «Амкадора» сенатар Аляксандр Шакуцін спрабуе выкупіць акцыі прадпрыемства ў дробных акцыянераў. У канцы чэрвеня ён зрабіў прапанову на куплю 40 тысяч акцый агульным коштам $500 тысяч.

### Рост на 152 тысячы працэнтаў

За першы квартал 2012 Беларусь экспартавала змазачных матэрыялаў на $373 мільёны (год таму — $200 тысяч), а распушчальнікаў — на $1,13 мільярда (было $94 мільёны). Рост склаў 152 000% і 1 305% адпаведна. Эксперты мяркуюць, што Беларусь прадае нафтапрадукты пад відам распушчальнікаў, каб не плаціць Расіі мыта.

### Туркі збудуюць порт у Брагінскім раёне

Плануецца будаўніцтва тэрміналаў для перавалкі навалачных грузаў і нафтагрузаў, а ў перспектыве — звадкаванага газу. Аб'ём інвестыцый складае каля $10 мільёнаў.

**ЯМ**

# Колькі зарабляюць мае аднакласнікі







Мары і рэальнасць: як нас разводзіць жыццё. Піша **Сяргей Макарэвіч**.

Я скончыў школу ў Вілейцы восем гадоў таму. У класе нас было 20 чалавек: амаль пароўну — 11 хлопцаў і 9 дзяўчат. Усе аднакласнікі, калі не памыляюся, атрымалі вышэйшую адукацыю. Цяпер ім па 25—26 гадоў. Шмат хто пабраўся шлюбам. Большасць з аднакласнікаў я не бачыў некалькі гадоў, а кагосьці і ўсе восем. Я вырашыў адшукаць іх, каб пацікавіцца, хто чаго дасягнуў у жыцці за гэты час. Не ўсе з тых, каго знайшоў, праўда, адгукнуліся.

### Паэт з дыпломам эканаміста

З маім найлепшым сябрам Сашам мы думалі стаць гісторыкамі. Прынамсі, я так лічыў. Дзесьці за месяц да выпускнога мы пасварыліся — і ўвесь гэты час не размаўлялі. Памірылі нас толькі ў канцы школьнага балю. Падаваць дакументы ў БДУ мы ў выніку паехалі разам. Але ён ужо спыніўся на эканамічным факультэце, я, як і хацеў, — на гістфаку. Абодва не паступілі. Я праз год штурмаваў журфак БДУ, які і скончыў. А Саша ў той жа год паступіў «другім патокам» у Аграрны тэхнічны ўніверсітэт.

Пасля ВНУ ён скончыў магістратуру і паехаў па размеркаванні на поўдзень краіны — у Лельчыцкі раён. З заробкам 720 тысяч рублёў у СВК прапрацаваў галоўным эканамістам год. Потым у «канторы» ўзніклі праблемы, а Сашу адправілі ў іншы раён Гомельшчыны. Спачатку ў адну гаспадарку, а затым — у філіял гомельскага дзяржпрадпрыемства. Зарабляе цяпер каля 3 мільёнаў.

Захапленне гісторыяй саступіла месца літаратуры: піша вершы. І цяпер са свайго заробку адкладае грошы на выданне дэбютнай кнігі паэзіі.

### Прынцэса-інжынер

З Нінай я дзяліў парту цэлы год. Наш ліцэйскі клас складаўся з дзвюх груп: грамадска-эканамічнай і фізіка-матэматычнай. Да апошняй належала і Ніна, хаця і марыла стаць юрыстам. У выніку ж скончыла Тэхналагічны ўніверсітэт у Мінску. І вярнулася ў родны горад. Выйшла замуж. Працуе інжынерам-канструктарам мэблі ў філіяле большага акцыянернага прадпрыемства. Заробак свой не хавае: «У мінулым месяцы атрымала на рукі 3,5 мільёнаў рублёў. У гэтым, напэўна, менш — «прывязалі» да цэха. Калі цэх выканае план — усё окей! Калі не — то не. Але мяняць працу жадання ўвогуле няма. Падабаецца». Ніна, між іншым, была прынцэсай на выпускным балі ў школе.

### Рэкардсменка па дыпломах

Дзіна вылучалася сваёй здольнасцю арганізоўваць «афтапаці» пасля нейкіх афіцыйных школьных мерапрыемстваў. Як правіла, усё праходзіла ў яе на кватэры: бацькі аддавалі нам самы вялікі пакой. Ёй бы мо і пайсці далей развіваць талент арганізатара. Хаця падлеткам марыла стаць настаўніцай альбо доктаркай, а як скончала школу — дызайнеркай інтэр'ераў. Але склалася па-іншаму. Усе восем гадоў пасля школы яна спасцігае розныя спецыяльнасці. Сёлета Дзіна атрымала трэці дыплом.

Адразу пасля школы не паступіла ў ВНУ і пайшла ў ПТВ — стала майстрыхай-цырульніцай 4-га разраду. Затым быў сталічны каледж тэхналогіі і дызайну лёгкай прамысловасці (мадэльерка-канструктарка). Сёлета скончыла яшчэ і Віцебскі тэхналагічны ўніверсітэт — тэхнолаг.

«Мне не патрэбныя тры дыпломы — у мяне зусім не было мэты іх калекцыянаваць. Гэта наступствы нявызначанасці ў выбары. І да сёння наведваюць думкі пра змену спецыяльнасці і атрыманне сапраўды запатрабаванай адукацыі».

Дзіна працуе ў Гомелі ў прыватнай фірме па пашыве дзіцячага абутку галоўным канструктарам-тэхнолагам. Пасля каледжа з'ехала туды па размеркаванні і засталася. Атрымлівае 2,1 мільёны рублёў. Як бонус — фірма аплочвае здымную кватэру.

### Першыя тата і мама

Дзіма не вылучаўся надта ў школе. Пасля нейкага канфлікту з Нінай ён заняў яе месца са мной за партай. Мы абодва «не секлі» ў геаметрыі (і яшчэ ў парачцы прадметаў), праз што часта даводзілася нясоладка. Ён адным з першых аднакласнікаў ажаніўся і стаў бацькам: гадуе дачку. Пра жаданне Дзімы стаць вайскоўцам, калі не памыляюся, шырока стала вядома ў 11 класе. Хаця яшчэ «ў дзяцінстве любіў усё, што звязана з вайскоўцамі — фільмы, кнігі. А цяпер недзе крыху і патрыятызму ёсць — камусьці ж трэба».

Паступіў у Вайсковую акадэмію, атрымаў званне старшага лейтэнанта. Працуе намеснікам начальніка вузла сувязі. «Заробак апошні 3,3 млн, але гэта з баявымі дзяжурствамі. А чыстымі — 2,7 млн». Разам з Дзімам працуе і аднакласнік Арцём. Ён, праўда, скончыў Мінскі вышэйшы авіяцыйны каледж.

Каця стала першай мамай сярод маіх аднакласніц. Але гэта было ўжо пасля школы, пасля ВНУ. А ў 10—11 класах яна, як і я, вучылася ў грамадска-эканамічнай групе.

Каця ў дзяцінстве марыла стаць банкірам, а дыплом атрымала інжынера. Пасля заканчэння Аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта ў сталіцы на адным з прадпрыемстваў Бярозы займала пасаду інжынера па ахове працы. Цяпер знаходзіцца ў дэкрэтным. «На той час (2009—2010) заробак быў каля 700—750 тысяч. У дэкрэтным адпачынку атрымліваю тыя ж 700 тысяч».

У адпачынку па доглядзе за дзіцем знаходзіцца і Маша. Яна пасля школы, здаецца, адзіная, не з'ехаў з роднага горада. Вучылася ж у педуніверсітэце завочна і працавала настаўніцай.

### Медалістка-банкірка

Школу Хрысціна закончыла з медалём. Дарэчы, медалістаў на ўвесь наш выпуск было ўсяго два.

Для мяне выбар спецыяльнасці Хрысціны ў ВНУ здаваўся дзіўным. Яна паступіла на мехмат БДУ. А сёння працуе ў камерцыйным банку ў Мінску начальнікам аддзела супраўваджэння. Заробак — вышэй за сярэдні па краіне.

Сярод маіх аднакласнікаў чвэрць скончала сталічны Тэхналагічны ўніверсітэт. Сярод іх была і Іра — дыплом інжынера-праграміста. Яна марыла стаць доктаркай або эканамісткай. А працуе ў Міністэрстве па падатках і зборах праграмісткай. Зарабляе 2,7 мільёны рублёў.

Яшчэ пра дзясятак аднакласнікаў вядома няшмат. Антон, напрыклад, працуе ў Акадэміі навук пасля БДТУ. Андрэй і Віталь вярнуліся ў родны горад, дзе знайшлі ўжытак сваім «тэхнічным» дыпломам. Таццяна — бухгалтарка ў адным са сталічных гатэляў. Яшчэ адзін Аляксандр стаў вайскоўцам...

...Памятаю, як у выпускным класе мы марылі пра ўласныя крамы, уласныя кнігі, уласныя... А за восем гадоў ніхто не паспеў зрабіць галавакружную кар'еру. Ці зменіцца нешта да 10-годдзя заканчэння школы?

Паводле звестак Белстата, налічаны сярэдні заробак у Беларусі ў маі склаў 3,56 мільёнаў рублёў ($435). Сярэдні заробак у Мінску вышэйшы — $550.

## Ладуцька: Студэнты падтрымліваюць адмену льгот на праезд

«Бо ў Мінску ёсць шмат спосабаў **зарабіць грошай**».

З 1 ліпеня для студэнтаў і навучэнцаў адмянілі бясплатны праезд у грамадскім транспарце.

Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька заявіў, што рэзанансное рашэнне ў цэлым было падтрымана студэнцкай грамадой.

«Мы заўсёды казалі: шаноўныя сябры, гэтая мера была прынята тады, калі ў нас было няпроста. Ніхто не абяцаў, што гэта навечна. Сёння Мінск пакуль не выйшаў на ўзровень заробкаў снежня 2010 года, але за май ужо маем у сярэднім больш за $500. Студэнты гэта разумеюць».

«Студэнты сказалі, што яны гатовыя да гэтага развіцця падзей. Бо сёння ў Мінску створаны ўмовы, у тым ліку і на будаўнічых аб'ектах, каб можна было стварыць сабе эканамічны запас», — сказаў кіраўнік Мінгарвыканкама.

Прывёў ён і такі факт: студэнты зусім не такія бедныя і далёка не ўсе з іх карыстаюцца грамадскім транспартам.

Паводле інфармацыі Мікалая Ладуцькі, са 110 тыс. навучэнцаў у 10 тыс. ёсць уласныя аўтамабілі.

**ЛМ**

### Зачапіла




## «Бульбаш» як сродак зарабіць

Беларусы здолелі **капіталізаваць крыўдную** мянушку.

Уявіце сабе ў цэнтры Кіева краму, якая б называлася «Кошик хохла», ці «Лукошко кацапа» ў Маскве. Дурны жарт. Але толькі не ў Беларусі. Тут на адной з цэнтральных вуліц сталіцы працуе крама «Кошык бульбаша». Беларусы не толькі не крыўдуюць на абразлівую мянушку, але і здолелі капіталізаваць яе. Гарэлка, пельмені, хлеб і тая самая крама заваблівваюць спажыўца словам «бульбаш».

**Сямён Печанко**

# Мядзведзь, фантан шакаладу і «Оскар»

Трэнды сёлетніх **выпускных**.

На мінулым тыдні студэнты адгулялі выпускныя балі. Частка выпускнікоў самастойна арганізоўвала свята, іншыя звярталіся да агенцтваў. Без чаго не абысціся на сучасным выпускным?

### Вядучы з «тэліка»

Папулярныя тэле- і радыёвядучыя не грэбуюць падпрацоўкай на выпускных у студэнтаў. За «ноч» яны просяць столькі, колькі большасць беларусаў марыць зарабляць у месяц: ад 500 у.а. Забаўляюць выпускнікоў як вядучыя навінаў — Дзмітрый Кахно, Дзяніс Кур'ян, так і іншыя медыйныя асобы — Люся Лушчык, Ніна Багданава, Яўген Булка ды іншыя.

### Месца правядзення

У сталічных выпускнікоў багаты выбар месцаў правядзення свята: рэстаран, кавярня ці начны клуб. Як варыянт, правесці свята можна на цеплаходзе на Мінскім моры.

*Кошт святочнага меню на аднаго чалавека пачынаецца ад 50 у.а.*

### Хамэр ці лімузін?

Пранесціся на гора-дзе на шыкоўным аўто па-ранейшаму актуальна, хоць шмат хто лічыць гэта «паказухай». Тыдзень студэнцкіх выпускных для арандатараў машын сапраўды «год корміць». Апроч традыцыйных лімузінаў папулярнасцю карыстаюцца вялізныя «хамэры», куды ўлазіць ажно 21 чалавек (у лімузін — да 11).

*Кошт пракату на 2 гадзіны — 150—500 у.а.*

### Шоу-праграма

У распараджэнні сучасных выпускнікоў дзясяткі варыянтаў забаўляльных мерапрыемстваў, пра якія раней можна было толькі марыць. Найбольш папулярныя — неонавае, лазернае і вогненнае шоу, салюты з надпісам навучальнай установы. А таксама — штукары, мімы, брэйк-данс-каманды і шоу барабанаў.

Беларускіх «зорак» эстрады замаўляюць рэдка, кажа спявачка Улада, якая з'яўляецца дырэктаркай аднайменнага святочнага агенцтва. Бо дорага. Куды больш запатрабаванымі былі кавер-бэнды, якія цягам некалькіх гадзін гатовыя граць вашы любімыя мелодыі.



«Лэдзі-фуршэт» прапануе пачастункі проста з падола сукенкі.



Танчыць з мядзведзем значна весялей.

Выпускнікі «мужчынскіх ВНУ» часцей замаўляюць нумары ў выкананні дзяўчат — ад танцавальных да стрыптызу.

«Навінкай» сезона можна лічыць трохметровых... мядзведзяў. Уявіце: побач з вамі на танцполе скача такі гігант (натуральна, цацачны). Як тут не весяліцца...

Упрыгожыць вечар можна з дапамогай шакаладнага фантана ці «лэдзі-фуршэт», якая на падоле сукенкі, бы на падносе, разносіць выпускнікам напоі і закускі.

*Кошты на шоу — ад 20 да 200 у.а. (а калі браць расійскіх «зорак», то і 1000 у.а.).*

### Выпускны ў стылі...

Найбольш дружныя і крэатыўныя выпускнікі пераўтваралі сваё свята ледзь не ў тэатральную пастанову, выкананую ў адпаведнасці з выбраным стылем. Напрыклад, выпускны, стылізаваны пад цырымонію «Оскар», з абавязковай чырвонай дарожкай.

**Аксана Рудовіч**

# «Час жанчын»: ці дойдзе справа да суда?

Са спектакля Мікалая Халезіна **выдалілі фінальную сцэну**.

Прэм'ера новага спектакля паводле п'есы Мікалая Халезіна і Наталлі Каляды скончылася скандалам. Рэжысёр выдаліў з твора фінальную сцэну.

«Час жанчын», паказаны ў Варшаве 9 чэрвеня, — гэта п'еса пра сустрэчу на Новы год жонак палітзняволеных, якія дзеляцца сваімі гісторыямі. У фінале ж акцёры мусілі расказваць трагічныя выпадкі з уласных жыццяў. Аднак мастацкі кіраўнік Польскага тэатра Яраслаў Гаеўскі сцэну выдаліў.

Мікалай Халезін, які пасля разгону Плошчы-2010 пераехаў на Захад, прыляцеў у Варшаву, каб «замарозіць» спектакль да моманту, калі фінальная сцэна будзе вернутая. «Структура была зламаная», — крытыкуе ён пастаноўку ў сваім блогу.

«Мы прыбралі гэтую сцэну са спектакля не ў апошнюю чаргу па просьбе акцёраў, — кажа Гаеўскі. — У такім выглядзе п'еса глядзіцца лепей».

Пастаноўка не выклікала энтузіязму польскіх крытыкаў. «Не ўдалося стварыць бяспечную інтымную атмасферу ў дыялогу жанчын, як не ўдалося паказаць іх боль у сольных сцэнах», — піша Gazeta Wyborcza ў рэцэнзіі з назвай «Вучыся, дзіця, гніць у турме».

Магчыма, фінальная сцэна — спроба сумясціць гісторыі персанажаў і гісторыі з жыцця акцёраў — змагла б вывесці спектакль на іншы ўзровень.

Польскі тэатр скончыў сезон, і толькі восенню стане вядома, у якім выглядзе далей будзе ставіцца «Час жанчын». Халезін гатовы, калі не ўдасца вырашыць канфлікт мірна, звяртацца ў суд.

**Юрась Ускоў**





Камертон Сяргея Ваганава

# След у гісторыі

Аднойчы, прачытаўшы мае нататкі пра стары Мінск, у якіх згадваўся знакаміты фантан «Хлопчык з лебедзем», патэлефанаваў Аляксандр Аляксандравіч Ломаць. «У маёй метрыцы, — сказаў ён, — у графе «месца нараджэння» пазначана: «747-ы км...»

Я паехаў знаёміцца.

Размова наша працягнулася з гэтага дзіўнага запісу ў метрыцы.

Нарадзіўся Аляксандр Ломаць, канечне ж, у Мінску, у 1938, а 747-ы кіламетр быў адным з тых, што абслугоўваў ягоны бацька, дарожны майстар на чыгунцы. Сёння гэта Усходняя станцыя, практычна цэнтр горада. А ў 1938 тут быў «747-ы кіламетр». Ад Масквы. Сам Ломаць не ведае, адкуль узяўся гэта запіс, а спытаць у бацькі няма як. Калі дарос да 16 гадоў і ўпершыню пацікавіўся запісам, бацькі ўжо не было, ягоны след згубіўся недзе ў Комі, у паўночных капальнях, куды ў 1944, адразу пасля вызвалення Мінска, быў сасланы «за супрацоўніцтва з акупантамі».

«Супрацоўніцтва» зводзілася да таго, што ён і пры немцах працаваў дарожным майстрам. Апошні эшалон на ўсход, куды ён, сам чыгуначнік, ледзь уціснуўся з жонкай і дзецьмі, не прайшоў пад бомбамі і дваццаці кіламетраў... Куды было дзецца? Пехатой да Крамля? Здолеўшы выратаваць жонку і пецярых дзетак у пагібельных пакутах пачатку вайны, ён працягваў ратаваць іх, забяспечваючы паўгалоднае існаванне...

Ужо не першы год напярэдадні 3 ліпеня ці не з тыдзень Мінск трасецца і глухне ад грукату танкаў і бэтээраў, а потым з тым жа грукатам адзначае нейкае самаробнае свята, якое не мае аніякіх адносін да сапраўдных падзей амаль сямідзесяцігадовай даўніны. Збіраецца мноства гараджан і прыезджых. Але Ломаця сярод іх няма. 3 ліпеня — не ягонае свята.

Ніхто не ведае ўсяго маштабу мінскай трагедыі 40-х гадоў, у якой былі не толькі Трасцянец і жахі гета, аблавы і шыбеніцы, калабарацыя і гераічны Супраціў, але і самаратаванне на мяжы жыцця і смерці, і жорсткасць

**Куды было дзецца? Пехатой да Крамля?**

«вызваліцеляў» у фуражках з сінімі акольшкамі, якія забрудзілі Мінск, калі жаўнеры пайшлі далей на захад...

Але дзяржава, улада, лязгаючы пераможнымі гусеніцамі, пра гэтую ганебную старонку мінскай гісторыі маўчыць. Бо не маўчаць — значыць зрабіць крок да таго, каб голасна пакаяцца перад тысячамі прысуджаных да знікнення без следу на лесапавалах, у паўночных капальнях толькі за тое, што, кінутыя ў малох гітлераўскай машыны знішчэння, здолелі выжыць самі і зберагчы дзяцей для будучага жыцця...

Пасля хуткага разбіральніцтва ў сценах НКВД і хуткага суда ад Ломацяў адвярнулася амаль уся радзіна, якой па сваяцкіх лініях ад самага пачатку мінулага стагоддзя назбіралася ў Мінску шмат. Па бацькоўскай лініі — усе вакол чыгункі. Гэта таксама мінская гісторыя: горад прырастаў чыгуначнай, як сказалі б зараз, інфраструктурай, а галоўнае — высокакваліфікаванымі рабочымі і майстрамі са сваім адмысловым статусам і побытам... Гэта былі па-сялянску вялікія сем'і, але ўжо з іншай, гарадской афарбоўкай, з іншай, гарадской традыцыяй і даробкам на будучыню. Ломаць з гонарам расказвае пра тое, як ягоны дзед, састаўнік цягнікоў, адзін утрымліваў вялікую, сем душ, сям'ю...

Якім жа моцным ды ўсёпранікальным быў страх, што здолеў раструшчыць не проста трывалыя — звыштрывалыя сваяцкія сувязі!

Ломаць цікавы тым, што не ўпусціў у сябе гэты страх. Не дзіва, што, займаючы даволі высокую пасаду на адным з мінскіх заводаў, падаўся напачатку 90-х у апазіцыю. Стачкам, мітынгі, дэманстрацыі пратэсту...

Ён паказвае фотаздымкі, выразкі з газет... А я думаю пра тое, што пазбавіцца страху магчыма, калі ўсвядоміць гістарычную значнасць сваёй асабістай гісторыі. Усвядоміць, што кожны твой крок у супраціве страху — гэта гістарычны крок. А крок пакідае след.

...Размова наша, уласна, была ў большасці пра Мінск. Ломаць узгадваў, на якіх вуліцах рос, успамінаў тое, што засталося ў дзіцячай памяці з часу акупацыі... А потым раптам сказаў, што «Хлопчыка з лебедзем» пасля таго, як яго ў сярэдзіне 80-х разбурылі вандалы, наноў адліваў ягоны сын. «Тамака пад крылом у лебедзя пазначаны ягоныя імя і прозвішча —Зміцер Ломаць»...

Ужо больш за дваццаць гадоў Зміцер Ломаць жыве ў Аўстрыі, працуе ў буйной фірме. Аб тым, як і чаму з'ехаў, бацька гаворыць з відавочным хваляваннем. Але штосьці, мабыць, перадалося ад сямейнай трагедыі, калі больш не захацеў заставацца ў «краіне-пераможцы».

А след пад крылом у лебедзя застаўся.

Яшчэ адзін след у мінскай гісторыі.

*kamerton_41@mail.ru*




# Іспанія стала вялікай

**Іспанія — Італія — 4:0. На нашых вачах пірынейцы ператварыліся ў наймацнейшую каманду ў гісторыі футбола.**

Вядома, гэта спрэчна. У мінулыя часы былі не менш класныя зборныя, але пакуль ніхто да «Чырвонай фурыі» не выйграваў тры найбуйнейшыя спаборніцтвы запар (Еўра-2008, Чэмпіянат свету-2010 і, нарэшце, сёлетні турнір).

На «Алімпійскім» у Кіеве Іспанія выйграла абсалютна па справе. Наўрад ці нехта будзе ставіць пад сумнеў гэты трыумф.

Цудоўныя італьянцы і так зрабілі больш, чым ад іх чакалі. На тоненькага каманда Чэзарэ Прандэлі выйшла з групы. Потым Буфон зладзіў бясплатны майстар-клас Джо Харту ў пасляматчавых пенальці з Англіяй. У паўфінале «кепскі хлопчык» Балатэлі злавіў кураж, яго два галы забяспечылі апенінцам перамогу над Германіяй і фінал.

Аднак ні Буфон, ні Балатэлі, ні Пірла не змаглі спыніць Іспанію.

Каманда Дэль Боске ад самага пачатку пляла сваё павуцінне. Некаму гэтая тактыка не падабаецца, іншым — наадварот. Але галоўнае — яна дае вынік.

Спачатку дваццаць дакладных перадач, у наступнай атацы — трыццаць. Так у чвэрцьфінале «чырвона-сінія» перамагалі Францыю. У фінале для першай прабоіны ў абароне Італіі спатрэбілася ўсяго чатырнаццаць хвілін.

Фабрэгас прарваўся па флангу, адпасаваўшы на Давіда Сілву, які мог нават не заўважыць, што мяч трапіў яму ў галаву — 1:0.

Іспанія на гэтым першынстве гуляла фактычна без форвардаў. Торэс большасць гульняў пачынаў на лаве запасных. Вілья траўмаваны. Гэта лічылі самым вялікім мінусам «фурыі», а мудры Дэль Боске перарабіў яго ў плюс.

Невядома, ад каго ў складзе Іспаніі можна было чакаць небяспекі. То рудабароды апорнік-баск Хабі Алонса дублем адзначыцца, а то, як у фінале, левы абаронца Хордзі Альба апынецца на вастрыні атакі. Гэта быў першы гол Альбы за зборную — 2:0.

На той момант у створ варот Буфона было нанесена 2 удары. Гульня была зробленая.

У другім тайме «Скуадра адзура» старалася не дазваляць іспанцам у звыклай манеры катаць мяч. Бяда Італіі была ў тым, што ў іспанскай браме гуляў бясхібны Ікер Касільяс.

Разгром жа Італіі аформілі Торэс (ён забівае другі фінал «Еўра» запар) і Мата — 4:0. Такіх выйгрышаў у фіналах Еўра яшчэ не было ніколі.

Ужо шэсць гадоў, як Іспанію ніхто не здольны спыніць. 12 кастрычніка гэтыя хлопцы прыедуць у Мінск.

ЗП

### Фотафакт



**Прынц Іспаніі Філіп віншуе Андрэса Ін'есту з перамогай на Еўра.**

### Сціслa

**Ін'еста — найлепшы**

28-гадовы паўабаронца «Барселоны» і зборнай Іспаніі Андрэс Ін'еста названы найлепшым гульцом Еўра. Ін'еста быў не самым яркім футбалістам, але самым надзейным.

**Аршавін папрасіў прабачэння**

Капітан зборнай Расіі Андрэй Аршавін папрасіў у заўзятараў прабачэння за выступ каманды на Еўра. Аршавін запісаў для гэтага адмысловы відэазварот.

**Плаціні: Украіна і Польшча могуць ганарыцца**

УЕФА засталоася задаволеным Еўра. Гэта першы чэмпіянат кантынента, што прайшоў ва Усходняй Еўропе.

**Наступнае «Еўра» па новай схеме**

Гэтае першынства было апошнім, у якім удзел бралі 16 каманд. У 2016 у Францыі ўдзел возьмуць 24 зборных.

ЗП

**Бамбардзір турніру**

# Ён СуперМарыя

**Балатэлі стаў самым яркім гульцом Еўра.**

У вечар, калі Марыя забіваў два галы ў вароты Германіі, яго абагаўляла ўся Італія. Хаця зусім нядаўна ў гэта было немагчыма паверыць. Занадта шмат ворагаў нажыў гэты хлопец за 21 год свайго жыцця.

Ацэнкі ягонай гульні розняцца процілегла: гультай, геній, сімулянт, талент, правакатар, самая вялікая зорка італьянскага футбола, скандаліст. Як толькі не называлі Балатэлі.

У 17 гадоў ён прабіваецца ў асноўны склад «Інтэра». Фанаты супернікаў не любілі Марыя за ўдары спотайку, за качанне па полі, калі апанент ледзь кранае яго. Ды і сам Балатэлі мог паказаць трыбунам язык. Яго асвіствалі.

Да пэўнага часу толькі фаны «Інтэра» даравалі Балатэлі ўсё. Вядома, ён быў іх галоўнай надзеяй. Працягвалася гэта да той пары, пакуль футбаліст з уласцівай яму прастатой на сустрэчы з хворымі дзецьмі ў бальніцы не сказаў: «А вы не ведалі, што я аматар «Мілана»?

Можна здагадацца, як адрэагавалі на такія словы «тыфозі» «Інтэра». Гэта ж трэба такое нахабства — прызнацца ў каханні да адвечнага праціўніка.

Праз нораў Балатэлі назвалі «цяжкім дзіцём італьянскага футбола». Аднойчы яго ў падтрыбунным памяшканні проста збіў Марка Матэрацы (той самы, што справакаваў Зідана на яго славуты ўдар галавой у грудную клетку суперніка). Матэрацы думаў, што такі выхаваўчы ўчынак прымусіць Балатэлі палюбіць клуб. Куды там!

«Бывай, СуперМарыя, ты для нас памёр, — казалася ў звароце фанаў «Інтэра» да футбаліста. — Пакуль твае партнёры праліваліі кроў на полі, ты, як звычайна, валяў дурня». Марыя сышоў у «Манчэстэр Сіці».

«Калі б Балатэлі выкарыстоўваў хаця б 50% сваіх магчымасцяў, то быў бы вялікім», — казаў пра яго трэнер Жазэ Маўрыньё.

Балатэлі мог не прыходзіць на трэніроўкі, бо перад гэтым завісаў на дыскатэках. Маўрыньё пытаўся, чаму 35-гадовы Дзанэці выкладваецца па поўнай праграме, а Балатэлі робіць толькі тое, што яму падабаецца.

Многія мяркуюць, што складаны характар Марыя быў закладзены яшчэ ў дзяцінстве, калі яго бацькі — эмігранты з Ганы Томас і Роз Барвуа — адракліся сына. Яго забрала італьянская сям'я з Брэшыа. Некалькі разоў яны адвозілі хлопчыка да біялагічных бацькоў, але заўсёды сустракалі замкнёныя дзверы. Толькі калі футбаліст набыў вядомасць, спадар і спадарыня Барвуа са слязамі на вачах сталі з'яўляцца на розных ток-шоу. Марыя ім не паверыў. Ён захоўвае вернасць той сям'і, якая яго выгадавала. Кранальныя адносіны з маці можна было пабачыць пасля трыумфальнага паўфінала.

Гуляць за зборную Ганы ён адразу адмовіўся, бо не адчуваў яе сваёй радзімай. Але і загуляць за Італію было праблематычна, многія заўзятары абвесцілі акцыю «Не бывае чарнаскурых італьянцаў». Выйшла, што ўсё ж бываюць.

Марыя піжоністы. Ён мае машыну за 120 тысяч фунтаў стэрлінгаў. Высакамерны. Кідаў дроцікі для дартса ў дублёраў «Манчэстэр Сіці». Недысцыплінаваны. За няправільную паркоўку аўто быў аштрафаваны ў суме на 10 тысяч фунтаў. Дзяцініца. Любіць феерверкі, якімі ледзь не спаліў уласны дом. Моднік. Носіць яркае і запамінальнае адзенне. Непасрэдны. Калі застаецца на лаве запасных, то можа лёгка прыцягнуць з сабой Ipad і гуляцца з ім. Добры. Доўгі час клапаціўся, а потым увогуле забраў да сябе кацяня, што жыло побач з базай «Манчэстэр Сіці».

Самае галоўнае, што Балатэлі — сапраўдны. А гэта для сённяшняга спорту рэдкасць. Калі ён забіў другі мяч у вароты Германіі, то зняў з сябе майку, за што атрымаў жоўтую картку. Ён мог падвесці каманду, але зрабіў тое, што казала сэрца. Пасля гэтай гульні Італія даравала ўсё СуперМарыя.

**Зміцер Панкавец**




Пасля фіналу Балатэлі не хаваў слёзаў.

# Унук экс-кіраўніка Гродзеншчыны справакаваў страшную аварыю

**Адзін чалавек загінуў,** шасцёра — шпіталізаваныя.

Трагедыя здарылася 28 чэрвеня каля Гродна. Па інфармацыі абласной ДАІ, 15 першакурснікаў на трох машынах ехалі адзначаць заканчэнне сесіі. Яны знялі дом у вёсцы Каробчыцы, за некалькі кіламетраў ад абласнога цэнтра. «Опелем Корса» кіраваў студэнт, які толькі месяц таму атрымаў правы і якому два тыдні назад бацька падарыў аўтамабіль. У нейкі момант «Опель» пайшоў на абгон на мосце цераз раку Ласасянку. 19-гадовы хлопец не справіўся з кіраваннем і сутыкнуўся з «Рэно Меганам», што рухаўся насустрач.

«Рэно», у якім ехалі двое мужчын, ад удару выштурхнула на паласу сустрэчнага руху, ударыла ў адбойнік і адкінула назад. Кіроўца «Опеля» паспрабаваў утрымаць сваю машыну, аднак яна перакулілася на дах на сустрэчную паласу, дзе ў яе урэзаўся яшчэ адзін аўтамабіль.

У інтэрнэце студэнты, якія ехалі следам за віноўнікам аварыі, выставілі відэазапіс з рэгістратара. На ім бачна, як кіроўца «Опеля» здзяйсняў абгон з парушэннем правілаў дарожнага руху: праз суцэльную двайную лінію, ехаў з вялікай хуткасцю.

У выніку аварыі 18-гадовая Арына, якая сядзела на заднім сядзушцы «Опеля», загінула на месцы, кіроўца і яшчэ трое пасажыраў шпіталізаваныя. У бальніцу трапілі таксама мужчына і дзяўчына з «Рэно».

Супрацоўнікі ДАІ, якія прыехалі на месца здарэння, адзначылі, што кіроўца «Опеля» пасля аварыі знаходзіўся ў шокавым стане, ён не мог нават сказаць, з кім ехаў. Паўтараў толькі, што ў яго сесія, ён не спаў некалькі начэй, а на днях павінен быў здаваць апошні іспыт.

Як аказалася, кіроўца — унук былога старшыні Гродзенскага аблвыканкама Дзмітрыя Арцымені. Апошні быў забіты ў 1993 у двары ўласнага дома: яго застрэлілі.

Арына была адзіным дзіцём у сям'і. Да ўсяго, у яе памёр бацька — і цяпер маці засталася адна. Дзяўчына толькі скончыла першы курс Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, факультэт эканомікі і кіравання: за дзень да трагедыі разабралася з сесіяй. Не ўсе, праўда, хто ехаў адзначаць канец сесіі, здалі яе. Па словах аднагрупнікаў пацярпелых, некаторых хлопцаў на днях чакала пераздача.

Знаёмая Арыны Каця да сёння не верыць у смерць дзяўчыны: Яна была цудоўнай, добрай, жыццярадаснай».

«Яна была выдатным чалавекам, вясёлым — усмешка не сыходзіла з твару», — дзеліцца сваімі ўспамінамі пра загінулую яе аднакурсніца Віка.

На некаторых сайтах паведамілі, што Арына сустракалася з кіроўцам «Опеля». «Не, гэта няпраўда. Яны толькі сябравалі. У Арыны быў хлопец, але гэта іншы чалавек», — кажа Віка.

**Сяргей Макарэвіч**

**«Яны жыць не хочуць…»**

Відэарэгістратар на машыне студэнтаў, якія ехалі следам за «Опелем», зафіксаваў не толькі парушэнні ПДР, але і рэакцыю сяброў на гэта. Маладыя людзі ўсведамлялі ўсю небяспеку, але не спынілі свайго аднакурсніка.

«СМС-ку пісаў, што зараз дагонім», — кажа кіроўца на запісе. Яго машына адстала ад «Опеля».

«Паглядзі, у людзей правы месяц, а ўжо…» — павышаным голасам адрэагаваў кіроўца на рызыкоўны абгон «Опелем». «Ды яны проста жыць не хочуць», — каментуе другі хлопец.

«Давай мы будзем ехаць цішэй, і ўсё будзе нармальна, — спыняе кіроўцу ад хуткай язды дзяўчына-пасажырка. — Дзіма, жыць, разумееш», — працягвае дзяўчына, калі кіроўца выязджае для абгону на сустрэчную паласу, а там рухаецца іншая машына.





**Арына добра вучылася: яшчэ ў ліцэі яна была срэбранай медалісткай.**

**Дзмітрый Арцыменя**

(1932-1993) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Дзесяць гадоў да самай смерці ўзначальваў Гродзенскі аблвыканкам. Разглядаўся партыйнай наменклатурай у якасці кандыдата на пасаду старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі замест Станіслава Шушкевіча. Арцыменю застрэлілі ў верасні 1993 на ганку ўласнага дома ў цэнтры Гродна. Забойцу так і не знайшлі.

**Дзве смерці ў адной машыне**

У гэты ж дзень у Мастоўскім раёне па віне п'янага кіроўцы загінулі двое навучэнцаў. Сцягнуўшы ў сваёй сужыцелькі ў Ваўкавыску ключы ад «Рэно», п'яны 30-гадовы мужчына паехаў катацца. Па дарозе ў Скідаль ён сустрэў незнаёмых хлопцаў, якія ўзяліся паказаць яму дарогу да горада і селі ў аўто. У дарозе кіроўца па нейкай прычыне развярнуўся і паехаў назад у Ваўкавыск. Але ў Мастоўскім раёне машына перакулілася. Кіроўца і трое пасажыраў не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі — і іх выкінула з аўто. У выніку двое маладых людзей, якія з'яўляліся навучэнцамі аднаго з ліцэяў Ваўкавыска, памерлі ў бальніцы. Кіроўца і трэці пасажыр шпіталізаваныя. У крыві ў мужчыны было знойдзена 1,25 праміле алкаголю.

**Фотафакт**



**1 ліпеня на праспекце Незалежнасці ў Мінску адбылася незвычайная аварыя з удзелам адразу трох кабрыялетаў Chrysler. Традыцыю аб'язджаць сталіцу ў кабрыялетах маюць выпускнікі Вайсковай акадэміі і іншых ВНУ Мінабароны і МНС. Атрымаўшы пагоны, маладыя афіцэры арандуюць шыкоўныя аўтамабілі і едуць праз Мінск у абдымку са сваімі дзяўчатамі.**

# Сатаністы апаганілі храмы ў Мазыры

Гэта **другі выпадак** сёлета.

Пабітае шкло, надпісы і малюнкі антыхрысціянскага зместу надрапаныя на сценах Свята-Міхайлаўскага кафедральнага сабора і храма Сергія Раданежскага ў Мазыры. Такімі цэрквы ўбачылі 26 чэрвеня вернікі.

«Праваслаўных Гомельшчыны засмучае, што знаходзяцца «смелыя», якія адважваюцца сваімі дзеяннямі зневажаць працу многіх людзей па аднаўленні духоўнасці ў горадзе, раёне, вобласці. Вернікі перакананыя, што пакаранне за зробленае непазбежнае, бо апостал Павел у звароце да Галатаў гаворыць: «Не падманвайцеся: Бог зняважаным не бывае. Што пасее чалавек, тое і пажне», — з такой заявай выступіла Гомельская епархія ў адказ на вандалізм.

Мазырскі храм Сергія Раданежскага сёлета ўжо быў апаганены. Гэта здарылася ў ноч з 17 на 18 сакавіка. Невядомы напісаў на сцяне царквы: «Гары, дрэнь» і намаляваў перавернутыя крыжы — знак сатаністаў.

Па гэтым факце распачата крымінальная справа па арт. 341 КК (апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці).

У Мазыры гэта не адзінкавыя выпадкі вандалізму ў адносінах да культавых пабудоў. Два гады таму абразлівымі надпісамі была распісаная царква Увядзення ў Храм Прасвятой Багародзіцы. У 2007 была спроба спаліць касцёл Святога Міхаіла. А ў 2006 апаганілі і спалілі храм Георгія Перамаганосца.

**Кастусь Матушыч**

## Сціcла

**Будаваў дом задарма**

Былы намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці. Супрацоўнікі УКДБ выявілі факты выкарыстання чыноўнікам службовага становішча. Паводле следства, курыруючы працу будаўнічай галіны горада, ён звярнуўся да дырэктара будаўнічай арганізацыі з просьбай выдзеліць спецыяльную тэхніку, матэрыялы і рабочых без заключэння адпаведных дамоваў і аплаты для будаўніцтва свайго дома. Да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады асуджаны і дырэктар бударганізацыі.

**Загінулі падлеткі-раварысты**

29 чэрвеня ў Жлобінскім раёне на трасе Мінск — Гомель двое падлеткаў-братоў, якія ехалі на роварах, трапілі пад колы грузавіка «Фальксваген». Гэта жыхары вёскі Красны Бераг 1997 і 1999 гадоў нараджэння. Яны ехалі ўслед за айчымам, мужчына не пацярпеў. Паводле папярэдняй інфармацыі, перад грузавіком адзін з веласіпедыстаў раптам выехаў на паласу руху транспарту.

**Асудзілі экс-кіраўніка «Мазырсолі»**

На сем гадоў пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці. Былы кіраўнік прадпрыемства асуджаны па ч.3 арт.430 КК (атрыманне хабару). Па версіі следства, выкарыстоўваючы службовае становішча, гендырэктар вымушаў кіраўніка адной з расійскіх фірм даць яму хабар за вырашэнне пытанняў, якія ўваходзілі ў яго кампетэнцыю. Затрымалі кіраўніка «Мазырсолі» пры атрыманні 8100 даляраў у якасці хабару. Вінаватым сябе на судзе ён не прызнаў. Маўляў, грошы яму падкінулі.

**КМ**

# Памёр Сяржук Вітушка

Пайшоў з жыцця **кіраўнік легендарнай «Талакі»** — адной з першых незалежніцкіх арганізацый у часы СССР.

Сержука Вітушкі не стала раніцай 2 ліпеня ў віленскай лякарні. Два тыдні таму ў яго здарыўся інфаркт. Апошнія дні Сяржук быў у цяжкім стане і памёр на руках у жонкі Людвікі, якая апекаваліся ім, змяможаным, доўгія гады ягонай слабасці. Вітушка цяжка хварэў на дыябет, страціў зрок і нагу. Па Сержуку засталася дачка Паўліна.

Вітушка нарадзіўся ў 1965 у мястэчку Чысць Маладзечанскага раёна. Скончыў прафтэхвучэльню, працаваў рабочым на «Інтэграле», пасля скончыў гістфак БДУ. У часе быцця ў Мінску Вітушка прыйшоў у нацыянальны рух. Ён хадзіў на дыскусіі і святы «Майстроўні», рэгістраваў моладзевае аб'яднанне «Талака», быў яго старшынёй. У 1987 «Талака» стала адной з самых уплывовых арганізацыяў беларускай дэмакратычнай супольнасці, сімвалам моладзевага супраціву таго часу.

Талакоўцы працавалі на раскопках і рэстаўрацыях, дамагаліся стварэння беларускіх класаў і школаў, аднаўлялі народныя святы — Купалле, Каляды, Гуканне Вясны.

З набыццём незалежнасці Вітушка адгукнуўся на заклік аднаўляць беларускую культурную прысутнасць у Вільні. Ад 1991 ён жыў у старадаўняй сталіцы ВКЛ, працаваў у беларускай школе, на радыё. Тут пачала моцна праяўляцца яго хвароба. Але ён імкнуўся працаваць нават страціўшы зрок. Навучыўся друкаваць сляпым метадам, шмат пісаў казак, п'ес-батлеек і вершаў, ладзіў «сляпыя экскурсіі» для беларусаў па Вільні.

У 2011 выйшла кніга яго казак для дзяцей і дарослых «Дзіньдзіліль: пара гуляць у казкі!». Прэзентацыя выдання ў Мінску летась стала апошняй імпрэзай з удзелам Сержука.

Пасля страты нагі Вітушку перавезлі жыць у віленскую кватэру Сяргея Дубаўца, што на першым паверсе. Бо з пятага паверха сваёй кватэры Вітушку цяжка было вазіць на штодзённыя працэдуры ў шпіталь.

Хаваць Сяржука будуць у родавай вёсцы Рагава (Мінскі раён), недалёка ад Вязынкі.

Да апошняга Сяржук не траціў светліні духу і гумару. Ён калісь склаў такую жартоўную аўтаэпітафію:

> Ležučy pad kvitniejučaj hruškaj,
> Razumieju — narešcie ja volny.
> Tolki pčolki huduć mnie nad vuškam.
> Usie davolny.

Адышоў валатоўскі чалавек беларускай нацыі.

**Сяргей Гезгала**



Прэзентацыя кнігі казак у 2011 стала апошняй імпрэзай з удзелам Вітушкі.



Сяржук Вітушка (першы злева) падчас Купалля ў 1980-я.

### Спачуванні на nn.by

Вечная памяць, са святымі супакой Хрыстос!

**Талаковец**

Спачуванне сваякам і зямля пухам. Вельмі прыкра.

**Антон Астаповіч**

Svietlaja pamiać! Volat ducha, sapraŭdy. Strata dla usioj Bielarusi. Spaczuvanni svajakam i blizkim.

**Міхал Анемпадыстаў**

Вялікі дзякуй, Сяргей, за тое, што ў свой час ты, мой студэнт, паспрыяў майму асабістаму выбару на карысць беларушчыны, вяртанню да сябе. Зямля пухам і спачуванне родным, блізкім, усім, хто перажывае твой сыход з зямлі.

**Ніна Стужынская**

Эх, Сяржук, не думалася, што так рана, калі гутарылі з табой у 1989 на «Талацэ»... Але мы бачылі пяцігодку надзей 1990—1994! Зямля табе пухам. І ўсё вернецца нашым дзецям.

**VM**

Вечная памяць.

**Бераговіч**

Светлая памяць. Выдатны быў чалавек.

**Дзяніс Мельянцоў**

Тое, што ён пакінуў, можна назваць вялікім актам асветніцтва, подзвігам сучаснага ФІЛАМАТА І ЧАЛАВЕКА. Люблю цябе, Сяржук, буду гаварыць пра цябе заўсёды іншым! Малюся за цябе. ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

**Вольга Цярэшчанка**

Гэта сапраўдная страта для Беларусі. Колькі ж ён люду абудзіў ды навярнуў да беларушчыны! Вечны супакой душы Яго прасветлай і паклон нізкі жонцы за ўвесь клопат аб мужу.

**Віктар М.**

Ведаю спадара Вітушку яшчэ па Вільні. Вельмі добры чалавек. Запалю свечку за супакой ягонай душы, хоць і далёка ад Вільні.

**А.Аляксандр, Бангкок, Тайланд**

Jak sumna-vušcišna stałasia ad henaj viestki... Dziakuj Tabie, Siaržuk, što patrapiŭ pryjechaci ŭ Miensk kolki miesiacaŭ tamu... Spačuvańni Ludvice, Paŭlinie, inšym rodnym... Chaj rodnaja ziamielka staniecca pucham!

**Taciana i Vadzim Aleksandrovič**

## Імкнуўся ўсё ахапіць, удзельнічаў у кожнай справе

Пра Сержука Вітушку ўспамінае мастак, **удзельнік «Майстроўні» і «Талакі»** Генік Лойка.

«Калі кажаш пра яго, просяцца самыя пафасныя словы. Выходзіць няёмка: мы ж заўжды імкнуліся збіваць гэты пафас.

Упершыню пабачыў Сержука яшчэ ў «майстроўскія» часы, у нашым Тэатральна-мастацкім інстытуце. Мы тады зрабілі насценгазету «Міру—мір»: гэта была наша абураная рэакцыя на пажар у Мірскім замку. Кіраўніцтва спехам сабрала пасяджэнне з удзелам прадстаўнікоў Таварыства аховы помнікаў, археолагаў, каб суцішыць студэнцтва. Быў і Сяржук, ён задаваў чыноўнікам, адказным за ахову спадчыны, вострыя пытанні. Мяне ўразіла: гэты маладзенькі хлопчык, просты рабочы завода «Інтэграл», так перажывае за лёс беларускай культуры.

Пасля скончылася «Майстроўня», пачаліся моладзевыя суботнікі на помніках гісторыі і культуры, якія мы звалі «талокамі». Потым у Мінску ўтварылася «Талака».

Калі яна была цэнтрам моладзевага руху Беларусі, дык цэнтрам «Талакі» быў Сяржук Вітушка. Ён рабіў усё. Такі быў яго прынцып. Імкнуўся ўсё ахапіць сабою, удзельнічаў у кожнай справе. Пасля шкадаваў, што ў той час мала думаў пра здароўе...

Ён хаваў хваробу. Аднойчы, падчас Купалля, просіць: «Патрымай» — і дае шпрыцы... Ён хаваўся ў кустах і калоў сабе інсулін.

Сяржук заўсёды жартаваў. Я неяк зрабіў такую манету жартоўную — «Сем талераў», з выявай Зянона Пазняка. Адліць удалося ўсяго чатыры штукі, для самых блізкіх сяброў. І адну з іх аддаў Сержуку. Ён тады толькі страціў зрок, таму давялося тлумачыць, што на манеце.

А пасля ён навучыўся, зжыўся са сваёй слепатой. Хваліўся, што можа амаль нармальна хадзіць з кіёчкам. Нават вадзіў па Вільні «сляпыя экскурсіі»: паказваў відушчым тое, чаго яны не заўважалі ў нашай старажытнай сталіцы».

**Запісаў СМ**

## «Хатынская аповесць» Адамовіча выйшла ў англійскім выдавецтве

І выклікала **хвалю цікавасці**.

У выдавецтве Glagoslav Publications (Лондан) выйшла кніга Алеся Адамовіча «Хатынская аповесць». Гэта першая кніга беларускага аўтара, выпушчаная выдавецтвам, што спецыялізуецца на славянскай літаратуры. Кніга Адамовіча выйшла 22 чэрвеня, у дзень нападу Гітлера на СССР.

Дырэктар выдавецтва Максім Ходак адзначае, што не чакаў такой цікавасці да кнігі. Напрыклад, на сайце выдавецтва, дзе арганізавалі розыгрыш некалькіх асобнікаў, за пару гадзінаў запісалася 659 ахвотных прачытаць яе!

«У Еўропе вялікая цікавасць да гісторыі Другой сусветнай вайны. Але, на жаль, людзі мала ведаюць пра яе, а многія лічаць, што тую вайну выйграла Амерыка. Ёсць вялікая цікавасць і да Беларусі, але і пра вашу краіну і беларускую літаратуру ведаюць мала. Наша выдавецтва мае намер і надалей выдаваць кнігі найлепшых беларускіх аўтараў, як сучасных, так і тых, каго ўжо можна залічыць да класікаў».

Кніга у англійскім варыянце мае назву Khatyn. Чытачы з Беларусі, якія захочуць набыць кнігу, могуць зрабіць гэта праз сайт amazon.com. Тамсама варта пакідаць чытацкія рэцэнзіі: яны дапамогуць англамоўным чытачам.

**НБ**

### Сцісла

#### Эратычны раман пра мільярдэра і студэнтку паставіў рэкорд

Кніга брытанскай пісьменніцы Э. Л. Джэймс «Пяцьдзясят адценняў шэрага» ўсталявала новы рэкорд продажаў сярод раманаў для дарослай аўдыторыі. Першы мільён асобнікаў рамана быў раскуплены за 11 тыдняў. Папярэдні рэкорд — 36 тыдняў — належаў кнізе Дэна Браўна «Код да Вінчы». Раман апавядае пра бурныя ўзаемаадносіны мільярдэра Крысціяна Грэя і «наіўнай» студэнткі філалагічнага факультэта Анастасіі Стыл.

#### Каб пабудаваць гіпермаркет, знясуць помнік архітэктуры

Гродзенскі гандлёвы цэнтр «Карона» хоча пабудаваць на ўчастку па вуліцы Перамогі, на месцы сённяшніх вайсковых казармаў. Каб захаваць памяць пра іх, плануецца зрабіць кардонны макет будынкаў імперскай эпохі. Агульная плошча гіпермаркета складзе 15 тысяч квадратных метраў

**СМ**

# Чаму беларусы слабыя?

Сям'я павінна быць мацнейшай за дзяржаўныя органы. Піша **Томаш Бладынец**.

Ужо шмат гадоў беларусы думаюць і разбіраюцца, адкуль слабасць іх нацыі. Разам з імі думаюць пра гэта і рознага кшталту сябры беларускай справы за яе межамі, гісторыкі, палітолагі, нават некаторыя простыя людзі. Цікавіць гэта і мяне, паляка, які больш за 10 гадоў назірае за беларускай рэчаіснасцю. Часта ўдзельнічаю ў розных сустрэчах і дыскусіях, дзе ўзнікае пытанне, чаму беларусы няздольныя вызваліцца.

Чуў і бачыў шмат спробаў адказу, якія вы ўсе добра ведаеце, бо яны бясконца паўтараюцца. Але апошнім часам думаю, што асноўнай прычынай можа быць праблема, пра якую амаль ніколі ніхто не гаворыць. Праблема, якая ў беларускім асяроддзі — штосьці накшталт табу, што кожны абыходзіць і свядома не кранае, бо сам з ёю не разабраўся.

Гэтая праблема — слабасць беларускай сям'і.

Але ўсё па чарзе. У Варшаве рэгулярна адбываюцца сустрэчы з беларускімі інтэлектуаламі. У час адной з такіх сустрэчаў у верасні 2010 паважаны госць сказаў, што цяперашнія ўмовы ў Беларусі не адрозніваюцца ад акупацыі, і таму варта карыстацца метадамі тых часоў. Ён прывёў прыклад акупаванай у час Другой сусветнай вайны Польшчы, дзе немцы выразалі выкладчыкаў, зачынялі школы, душылі культуру і нацыянальную свядомасць людзей. У той час падпольныя настаўнікі сустракаліся з дзецьмі і моладдзю на кватэрах і вялі з імі размовы. Расказвалі ім пра культуру, пра сапраўдную гісторыю, пра мову. Такім чынам яны выратавалі вялікую частку маладога пакалення ад пераварэння ў рабоў. І такое, сказаў беларускі аўтарытэт, МОЖНА рабіць у нас! Гэтага міліцыя не здолее праверыць ці забараніць. Ніхто не можа табе забараніць размаўляць з дзіцем дома пра праўду.

Я быў уражаны. Падумаў, што сапраўды так і ёсць! Мабыць, не дэманстрацыі, не вулічныя пратэсты — дарога да вызвалення, але штосьці, што ў нас называецца «працай у асновах», — адукацыя грамадства, узбуджэнне і пашырэнне яе свядомасці. Гэты погляд асабліва ў мяне ўзмацніўся пасля снежня 2010 года. Беларусі патрэбныя нацыянальныя эліты, моцны слой грамадства, які ўзначаліць рух на карысць пераменаў і які пазней накіруе краіну ў правільны бок, калі гэтыя змены прыйдуць.

Трэба тлумачыць моладзі: тое, пра што расказваюць у школах, — глупства, каб у гэта не верылі. Калі прыйдзе міліцыя, хутка прыкінуцца, што адбываецца нейкае мерапрыемства, напрыклад, вяселле. Міліцыя кантралюе вуліцы, але кватэры — пакуль не.

А потым здарылася самае цікавае. Я сустрэўся з дзіўнай, неадназначнай рэакцыяй маіх беларускіх калегаў. Яны часам маўчалі, часам глядзелі ў зямлю, і я вельмі рэдка чуў сапраўдныя словы падтрымкі гэтай ідэі. Пачуў адказы ў стылі: «Ну так, толькі дзе знайсці такіх дзяцей...» Як гэта? Спачатку ў сям'і, у сяброў. Але тое, што для мяне здалося натуральным, шмат хто проста не ўспрыняў. Я пачаў цікавіцца, чаму ў беларусаў такая неахвота арганізаваць «падпольныя школы».

Я, здаецца, знайшоў адказ, калі зразумеў існаванне іншай, больш глыбокай праблемы. Але спачатку прыклады.

Першы знаёмы цікавіцца гісторыяй, ідэйны прыхільнік глыбокіх зменаў у краіне, шмат чаго робіць для беларускай справы, беларускамоўны. Але, як у хуткім часе высветлілася, не для ўсіх, бо яго жонка ўвогуле НЕ РАЗУМЕЕ беларускай мовы. Калі яна яе пачула, то падумала, што гэта польская. У іх ёсць дзіця.

Другі знаёмы, таксама свядомы, беларускамоўны, але калі мне здарылася аднойчы паразмаўляць з яго жонкай па інтэрнэце, яна пісала толькі па-расійску. У іх таксама ёсць дзіця.

Трэці знаёмы, беларускі студэнт у Польшчы, змагар за мову і за свабоду, са сваёй дзяўчынай размаўляе толькі па-расійску.

Чацвёртая сяброўка, беларускамоўная, але не з бацькамі і не са сваёй малодшай сястрой. Як яна сказала, ёй не хочацца гэтым займацца: калі сястра пойдзе ў школу, тады вывучыць беларускую.

У такі момант з'яўляецца пытанне: на якой мове яны выхоўваюць альбо будуць выхоўваць сваіх дзяцей? Якія ідэі і каштоўнасці яны ім перадаюць? Ці будуць яны лічыць беларускую мову роднай? І ці трапяць яны ў беларускамоўную школу?

### Ніхто не можа забараніць размаўляць з дзіцем дома пра праўду

Калісьці сястра маёй мамы, калі яшчэ была дзіцем, вярнулася са школы заплаканая. Там паведамілі, што памёр Берут, добры і сумленны кіраўнік краіны, бацька народа, сябра дзяцей. Тады мае бабуля і дзед правялі з ёй сур'ёзную размову і сказалі, што так гавораць толькі ў школе, а насамрэч няма чаго плакаць, бо Берут — бандыт і злачынца. І так рабіла большасць польскіх сем'яў.

Дом і сям'я — гэта месца, дзе мы выхоўваем сваіх дзяцей. Гэта крэпасць, у якой няма месца ўсяму гэтаму бруду і палітычнаму маразму.

Я заўважыў, што некаторыя беларускамоўныя беларусы не могуць дамовіцца са сваімі бацькамі. Паміж імі альбо канфлікт, альбо нейкая дзіўная нейтральнасць. Іх дзейнасць на бацькоў, на братоў і сясцёр неяк не ўплывае; здаецца, яны не вельмі часта пра гэта размаўляюць. Скажу болей: адчуванне, што ў гэтых беларускамоўных ёсць нейкі сорам. Агітаваць людзей на вуліцы, дзейнічаць у партыі, размаўляць з чужымі людзьмі наконт зменаў у краіне — гэта нармальна, але каб размаўляць з сям'ёй — гэта ўжо праблема. Як яны хочуць пераканаць грамадства, калі не могуць пераканаць бацькоў, самых блізкіх людзей, якія ім давяраюць?

На маю думку, каб Беларусь стала свабоднай, дэмакратычнай краінай, а беларусы — здаровай і моцнай нацыяй, абавязкова трэба ўзмацніць структуру сям'і. Трэба ачысціць дом, каб ён зрабіўся маленькай Беларуссю, пра якую вы марыце. І толькі пасля, калі гэта атрымаецца, змяняць усю краіну.

Трэба выхоўваць дзяцей ад нараджэння на роднай мове, размаўляць з імі пра каштоўнасці.

**Томаш Бладынец**
інжынер-будаўнік. Жыве ў Варшаве

# Беларуская глыбіня. **Іскры нераскаянасці**

Піша **Павел Севярынец**.

*...Але калі не пакаецеся, Усе гэтак сама загінеце.*
*Лукі, 13:3*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Паабяцалі мне нашы куплінскія рабочыя стагадовую газету. Няўжо, думаю, дзесьці на белавежскім хутары захаваўся знойдзены «Наша Ніва»? Прыносяць, складзеную ў чатыры разы, у пакецiку з-пад сушак. Газета не газета — улётка. Друк аднабаковы. Папера навобмацак цвёрдая, колеру бэжавага, добрая, унізе выходныя дадзеныя па-нямецку: Лейпцыг. На абароце шарыкавай ручкай нейкі мабільны нумар... І — чорным па белым: «Іскра», №1, 1900 г.

Падумаў, падробка. Перадрук. І каму яно тут у Пружанах спатрэбілася... Але на ўсялякі выпадак прашу паглядзець малецкага краязнаўцу Алеся Кенду. Алесь бярэ на прасвет, цярэбіць краі — і, бачу, пальцы заўважна пачынаюць трымцець: «Гэта арыгінал».

Першы нумар «Іскры» па маскоўскіх коштах — ад некалькіх соцень да 3,5 тысячы даляраў, у залежнасці ад стану.

У камендзе *іскру камунізму* трымаць небяспечна. Большасць асуджаных — лічы, жабракі. А тут такі, выбачаюся за каламбур, капітал. Спакуса.

...Калі з боку Пружанаў уязджаеш у былы вайсковы гарадок Куплін, пасля разбуранага КПП цябе сустрэне стод правадыра сусветнага пралетарыяту з растрэсканым тварам. Аблуплены, ля памыйкі, поруч з шыльдай «Прием овощей», Ленін прымружана азірае сваю разварочаную бункерамі ды фермерамі, зарослую бур'янам спадчыну, рыхтаваную дзеля планетарнай рэвалюцыі.

Камунізм, здаецца, ляснуў, а ідал стаіць.

Чакае.

Бо камуністычная спадчына тут, у беларускай глыбіні, — не толькі помнікі ды сатанінскія пентаграмы, не толькі паўсцёрты тэкст гімна СССР на крывавацагляным фасадзе Пружанскага тэхнікума па вуліцы Чырвонаармейскай. Усё нашмат глыбей — у душы, якая з чатырох галоўных арыфметычных дзеянняў не можа ані «дадаць», ані «памножыць», а ўсё хоча «адняць» і «падзяліць»; у бездані быцця, якое вызначае свядомасць, у пустаце духу.

### Мы асуджаныя вяртацца да камунізму, пакуль не пакаемся »

Мігцяць, дыміць, быццам жар на тарфяніку... Раптам зірнеш, а вакол у вачах большасці — рабочых, міліцыянтаў з «зорачкамі», асуджанай пралетарскай галоты, «чырвоных» калгасных начальнікаў — усё гэтак жа іскрыцца навуковы атэізм, знаёмая нянавісць да «прыватніка», агіда да царквы і грэблівасць да інтэлігенцыі ды невыносны сум па сусветным савецкім страху.

Камуністы... крок наперад, два крокі назад.

Іскры страшэннага зла, што ўспыхнула тут стагоддзе таму і занялося ўсечалавечым пажарам, і вынішчыла цэлыя народы і краіны, і спапяліла мільярды сэрцаў ад Расеі да Афрыкі, ад Кубы да Кітая — дагэтуль тлеюць у кожным з нас: яны нікуды не дзеліся. Нельга падманваць: з камунізмам не скончана. Не трэба думаць, што мы як народ ці кожны з нас ад яго вольныя.

Нецярпімасць да чалавечай асобы, спалучаная з цярпімасцю да зла, гэткая каінава пячатка бальшавізму — ці не іх мы бачым у жыцці большасці беларусаў скрозь і побач?..

А бязбожжа, то ваяўнічае, то абыякавае, непрыманне ўсяго, звязанага з Хрыстом, на руінах дыялектычнага матэрыялізму?..

А зайздрасць да суседа, нянавісць да заможнага, да чужой уласнасці?..

А калектыўная безадказнасць, што сярпом ды молатам кроіць і крышыць краіну і ва ўладзе, і ў апазіцыі?..

А абагаўленне чалавека — або ўсе мы ведаем, якога, або самога сябе?..

Не, як народ мы не пакаяліся.

У знішчэнні людзей, у якім беларусы масава ўдзельнічалі за саветамі, у выкараненні царквы і святарства (чаго вартыя адны гісторыі пра разбуральнікаў храмаў, вядомыя ці не ў кожнай вёсцы), у вырачэнні ўласнай мовы і культуры...

Нават у гэтым!

Чаму немцы, унукі жаўнераў вермахта, прыязджаючы ў Беларусь, плачуць у Хатыні, а мы робім сметнікі, палім вогнішчы ды выгульваем сабак на месцах сталінскіх расстрэлаў?..

Што ўжо казаць пра пакаянне ў абыякавасці да зла, маўчанні і бяздзеянні, у непапамозе і забыцці?..

Прычына правалаў усіх пачынанняў апошніх 20 гадоў — ад дэмакратызацыі і беларусізацыі да ўсялякіх яднанняў і адраджэнняў — у адсутнасці нацыянальнага пакаяння. Мы асуджаныя вяртацца да камунізму, да бязбожжа ў розных абліччах — да той пары, пакуль не пакаемся. Гэта — найважнейшы духоўны закон. Закон жыцця. Інакш няма чаго здзіўляцца: зямля, набрынялая неспавядaнай, нераскаянай крывёю, штогод будзе даваць толькі дым і попел.

Думаеш, каб беларусы нарэшце сталі нацыяй, дастаткова выплочваць кожнаму 500 $ на месяц?.. Ці, наадварот, не атрымаўшы $ 500, усім разам выйсці на Плошчу?

«А мне-та за што каяцца?!» — не проста абурыцца, вызверыцца беларус.

Страх, здрада, бязвольнасць, агульная млявасць і абыякавасць да жыцця ды ўрэшце нармальнасць граху ўжо так прараслі ва ўсіх кутках нашай істоты, так пашкодзілі пухлінамі і метастазамі тканкі ды органы, што выцicнуць з сябе раба па кроплі, як прышчыкі на твары — не-а, не ўдасца. Толькі балюча. Да надрыву, да горкай жоўці выбляваць з самага сэрца праз пакаянне.

Яшчэ жывыя відавочцы галадамору, сталінскіх чорных начэй з варанкамі, курапацкіх стрэлаў, ад якіх лопаліся патыліцы... Для іх ясней яснага: д'яблавы чырвоныя зоркі — усё гэта з распаленых глыбіняў самога пекла.

Для іх ясна. А для нас?..

Загасіць, затушыць тут, у Беларусі, іскры нераскаянасці можа адно Той, Хто асудзіў ворага роду людскога навечна гарэць у возеры вогненным. Толькі Госпад Бог.

*Куплін*

# Прывітанне з кляшчовай сталіцы

**Павал Касцюкевіч.**
Апавяданне.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пасля вяртання з кляшчовай сталіцы РБ, хутара Бронная Гара, у сталіцу людскую мы з Маяй абгледзелі адно аднаго — і нават у тых месцах, якія зазвычай не парупішся абгледзець. Цэлы тыдзень перад тым мы начавалі на хутары ў адным пакоі са шматлікімі Майчынымі браннагорскімі дзядзькамі, і таму ўжо дома ў Мінску пры ўзаемным патуранні бакоў антыкляшчовыя пошукіператварыліся ў зусім іншы занятак. Падчас любошчаў нашыя рукі, як бы працягваючы дбайны агляд, сягнулі рэшты патаемных закуткоў. І таму, здавалася, можна было сказаць, што праверка выйшла ўзорная.

Сярод ночы ва ўласнай кватэры я прахапіўся ад шчымення ў калене. Побач сапе голая Мая. Поўня шчодра страсае на яе аранжавы пылок. А пад самым каленам сцішыўся ён: падобны да пасляпапёчнага булдырка. Напоены вадкасцю, ці то ад асалоды, ці то ад нецярплівасці соўгаецца сваёй неймаверна павялічанай срачкай (ці гэта была галава?). Ад нахабства я аж папярхнуўся. І ўжо падняў быў руку, гатовы без суда і следства расціснуць поскудзь.

— Стой! Не чапай! — не падымаючы галавы ад падушкі, крычыць Мая прыспаным баском. Толькі што яна дрыхла як пшаніцу прадаўшы, і вось, калі ласка — чуйнуе.

— Ён патрэбны жывы!

— Каму?! Каму, мілая Мая, на гэтай планеце, акрамя Госпада Усёмагутнага, гэты крывасмок патрэбны жывым?

— Табе! Каб праверыцца на энцэфаліт, кляшча трэба здаваць незабітым!

І як хутка ўсё памянялася! Бескантрольная гняўлівасць і зацятае жаданне здзейсніць імгненны лінч знянацку ператвараецца ў вымушаны гуманізм, усіхлюбоўе са сціснутымі зубамі. Замест праведнай адплаты кроўнаму ворагу, гэтай кузюрцы, што падняла руку на значна вышэйшую за сябе істоту, ты вымушаны адшукаць у сабе якасці берагавога ратавальніка і светача хірургіі. Мусіш дадаць розуму і выкруціць небараку з цела.

Выпінаючыся са скуры, высалапіўшы ад напругі язык, асцярожненька, не пашкодзіўшы канцавіны і ні ў якім разе не закранаючы ўнутраных органаў, я адлучаю кляшча ад крыніцы асалоды і жыццезабеспячэння. Клешч варушыць лапкамі. Супраціўляецца, гад, не хоча быць выпхнутым у гэты мілы свет, дзе давядзецца карміцца самому. Мне здаецца, я чую яго надрыўны плач, плач навародка. Халерамаць, быццам прымаю роды ў самога сябе!

— Я ж спрактыкаваны ў медыцыне, — жартую праз злосць. — Яшчэ баба Груня была паталагаанатамам.

— Ігару, ну што ты вярзеш, прычым тут анатамаванне?! — абураецца Мая. — Цяпер зусім іншы выпадак. Асцярожна — не сціскай яму моцна брушка — бачыш, яно так раздзьмулася!

Урэшце, непрытомны ад высмактанай крыві клешч трапляе ў слоік ад дзіцячага харчавання.

Ляжыць там і ў сне, не раўнуючы дзіцятка, торгае ножкамі. Мая накручвае будзільнік на трэцюю ночы, каб я прачнуўся напаіць кляшча змочанай вадой анучай. Яшчэ я мушу адкрыць для вентыляцыі слоік. Каб клешч, гэтая сволач, — бронь і даруй, Божа — не здох...

Пад месяцовым святлом клешч ляжыць амаль нерухома. Толькі праз бялявую скурку відаць, як усярэдзіне пульсуе мая кроў. Напоены арганічнай электрычнасцю святляк. Я крыху ўглядаюся ў ягоную бязвокую сракабрухагалаву.

— Мужык, дай закурыць, — раптам кажа клешч і чухае тулава адной з лапак.

Агаломшаны, я не магу вымавіць слова і на аўтамаце выпускаю ў слоік дым. Аднак клешч дрыгае лапкамі і незадаволена матляе галоўкаю (дзе там, галоўкаю! — галавіскай!).

— Ды не дыму давай — цэлую цыгарэту кінь.

Зачараваны, я прыпальваю цыгарэту і шпурляю ў слоік. Сутаргаватымі рухамі адлучанага ад улюбёнай прывычкі курца клешч падпаўзае да цыгарэціны і ўядаецца хіжым ратком у фільтр.

— Наступным разам змочвай ватку не вадой, а спіртам, я спірт люблю, — узяўшы пару фазак, вучыць клешч. — І піва таксама.

І дадае:

— Ведаеш, а ты ў мяне не першы.

— Да ты шо! — кажу я здзеклівым суржыкам, каб ён зразумеў, што танныя хітрыкі разгаварыць і выклікаць пачуцці не спрацуюць.

— Так, — нібы не заўважаючы маёй іроніі, працягвае клешч. — Я шматразовым і шматгадовым крывасмокам выявіўся. І абы-каго не кусаю. Ужо цапнуў летась у Пінску падчас афіцыйнага візіту сабаку нарвежскага пасла.

— Сабаку ці пасла-сабаку? — пытаюся я. — І чыйго афіцыйнага візіту ў Пінск: твайго ці пасольскага?

— Не смешна, прыкаліст, — адказвае клешч. — Мне зараз пагана — перапіў, галава проста выбухае. А калі мне гэтак пагана, дык я і памерці магу...

Раптам у ягоным паўпразрыстым целе запальваецца ленінская хітрынка і клешч загадвае:

— Весялі мяне як след!

— Ідзі ты, клешч, у сраку!

І тут ён на злосць мне выстаўляе брушка (сраку?) угару і выпроствае лапкі.

— Ой, загубілі кляшча, ой, гаротны, вочкі закаціў! — лямантуе Мая, якая ўжо паспела прачнуцца. Цяпер намагаецца выхапіць у мяне з рук слоік, каб зрабіць кляшчу штучнае дыханне.

— Ой, закаціў я, — краёчкам вуснаў шэпча клешч.

— Ой, у дарожачку доўгую ты сабраўся! І на каго ты нас, страдны, пакідаеш? Ручкі заламіў, ножкі выпрастаў, і не даведаемся мы ніколечкі, ці быў у цябе энцэфалітачка!

— Ой, не даведаешся! — яшчэ злавесней і яшчэ ціпшэй шэпча мне клешч.

Мая ў слязах і роспачы пачынае мяне лупцаваць. Я нават не спрабую абараняцца.

Вытрымаўшы таленавітую паўзу, клешч на вачах узбуранай Маі ўваскрасае: падымаецца з днішча слоіка, страсае пыл з лапак і, паказваючы ручкай на акно, бадзёрым камсамольскім голасам цікавіцца:

— А чо там, цёлкі ёсць?

— Якія цёлкі?! — перапытваюся я, яшчэ не ў змозе адысці ад усяго гэтага спектакля.

Тут зноў заходзіцца Мая:

— Ігар, тэрмінова прывядзі яму жанчыну, бо ад гэтага залежыць, ці выжыве ён.

— Праўда, Ігарок, — ужо лагодна кажа клешч. — Чыстую крыніцу праўдзівага кахання я за адну ноч усё адно не знайду. Усе дыскатэкі пазачыняліся і чаты так позна ў інтэрнэце наведваюць толькі вычварэнцы пад жаночымі нікамі, дык, дружа, будзь ласкавы, прывядзі якую цёлку з дарогі. Ты не бойся — я ёй заплачу...

І вось сярод ночы я апынаюся на вуліцы, у пошуку прастытуткі для кляшча. Гляджу туды і сюды. Вуліца, ліхтар, аптэка. Поўная атрут для такіх звяркоў, як мой гадаванец. І што? Куды, што? Як?

Праз паўгадзіны бясплённых пошукаў на мабільны тэліць Мая:

— Усё ў парадку, — шэпча яна, а з яе голасам нешта не так. — Прастытутку можна не шукаць.

Я вяртаюся і доўга гляджу Маі ў вочы.

— Ён пачаў шантажаваць мяне тваёй смерцю, пагражаў, што перакусае маіх і тваіх бацькоў, сяброў, бо ведае, дзе ўсе яны жывуць. Маўляў, у яго доўгія чорныя спісы і «жучкі» паўсюдна... І я... я дала яму... пасмактаць сваёй крыві на дваццаць секунд... Ну не глядзі на мяне так — добра, не на дваццаць секунд, а на дзве хвіліны! — Мая апускае вочы.

Клешч паторгвае ножкай і нямоцна храпе. Цяпер патэнцыйна хворых нас ужо двое. Не, трое.

Зранку, абагнаўшы дзянніцу, ламлюся ў эпідэміялогію. У эпідэміялогіі — дактарыца ў гонкай шапачцы, якая фактычна служыць футаралам для высокай фрызуры а-ля Кацярына II.

Фальшывая імператрыца не можа нарадавацца на жывёлу:

— У, ты мой пупсік-кляшчуня! Малюнька мая! Пэўна, агаладаў, пісечка?

І пальцамі праз шкло слоіка цацкаецца з кляшчом: робіць указальным і сярэднім пальцамі «казу», а вуснамі — «муці-пуці» і «цюхці-мухці». Пасля ўчарашняй падвойнай дозы клешч крыху прыспаны, паблажлівы, як бегемот, махае адной з лапак, маўляў, салют медычным работнікам.

— А вы, — тут дактарыца павяртаецца да мяне і прафесійна спапяляе позіркам, — заплаціце трыццаць пяць тысяч і з квітанцыяй назад. Вось вам тэлефон — званіце наконт лабараторных аналізаў з дзвюх да чатырох на трэці працоўны дзень. Кляшча мы забіраем.

На трэці дзень тэлефаную. Дзявочы голас:

— Прыёмная пана Кляшча.

Я ціха дурэю, але збіраюся з сіламі:

— Слухайце, я такі і такі, ці не было чаго ў кляшча?

— Пан Клешч на нарадзе, — кажа дзявуля, знішчальнай інтанацыяй даючы зразумець, што пан Клешч — гэта мне не нейкі там прышч.

— Што?! Нічога не разумею! Гэта ўвогуле эпідэміялогія? На якой яшчэ нарадзе?

— Селектарнай. І потым адразу — сустрэча з замежнымі кампаніямі-донарамі, гатовымі ўліць у айчынную медыцыну... Энцэфаліт? Не, ён праверыцца не паспеў. Насычаны графік. Пазваніце заўтра.

І вось я, прыгнечаны, у чаканні прысуду, совaюся пустынным начным праспектам, што перасякервае Мінск з захаду на ўсход. Леваруч цягнецца сталінскі палітэх.

З боку Круглай плошчы, зіхочучы фарамі-пражэктарамі і закратаваным бамперам, імкліва набліжаецца транспартны сродак. У наглуха затанаваных чорнай фарбай алейных шыбах імчыць даўжэзны мерсэдэс, аблеплены як мухамі матацыклістамі ганаровай варты. Антрацытавы лімузін настолькі доўгі, што вокны на яго баках выглядаюць як шраг ілюмінатараў на борце круізнага карабля для піратаў. Дзесьці пасярэдзіне даўжэзнага даху два штатныя каўказцы варожаць над вогнішчам з шашлыком, а яшчэ там месцяцца надбудаваная танкавая вежа з гарматай, круглая пляцоўка для верталёта і акуратненькі катэджык — відаць, для чыёйсьці высокапастаўленай мамы.

Тут адна зацемненая шыба нязмушана сплывае долу, і з акна высоўваецца ён — у сонечных акулярах, на шчуплых плячах зялёны рэтра-мундзір з сінімі НКВДысцкімі пятліцамі ды трыма рукавамі на кожным баку. На вялізным галавабруху — рэтра-фуражка задам-наперад, такая самая сіняя, чэкісцкая. У адной лапе за горла клешч трымае батл «Бычынай крыві», у другой — «шмайсер» з ускінутай угару руляй. Трэцяй абдымае якуюсьці маляваную цёлку.

За яго спінай, недзе ў кішках лімузіна, шчэміцца і звіваецца, просіцца навонкі брыдоцце, пякельныя выпаўзні: аднавокія мармазяўры, з галавой асла і рукамі чалавека, вухапяты, голыя жалезныя людзі, бухматы жыцень, вожыкападобны хлеўнік, нейкія змярцвела-зялёныя суб'екты, якім невычэрпная беларуская мова нават не парупілася даць імя. Прагна лаюцца міжсобку і ўвачавідкі шалеюць ад беспакаранасці і юру — русалкі, лазнікі, вадзянікі, лесуны і проста чорная жамяра, гіганцкія краты ў залатых сонечных акулярах, жукі і жабы.

Тут клешч сее ў неба чаргу са «шмайсера». Увесь трасецца ад уласнай апантанасці, гэты пажадлівы хачунька. І цалуе ўзасос маляваную цёлку. А за яго левым плячом актывізуюцца звіванні і корпанні ў салоне.

— Драг нах остэн! Драг нах остэн! — немым голасам раве накачаны «Бычынай крывёю» клешч і гэтаксама гучна, на ўвесь праспект, дае загад матацыклістам кіраваць на пікнік у Курапаты.

Пракруціўшыся ўсю ночку ў ложку, зноў званю ў эпідэміялогію:

— Гэта Качуня, І. С. Што там з кляшчом?

— Здаровы наш паілец, здаровы кармілец! Ніякага нічога не выяўлена! — амаль істэрычна вішчыць сакратарка. — Дзякуй, што турбуецеся. Здаровы як дуб скарбовы наш дарагі кляшчуня, памагай яму Бог і дай прыбытку ў хату!

— Здаровы? То бок энцэфаліту няма?

— Не, што вы, які энцэфаліт? Цьху-цьху-цьху! Будзем жыць з ім сто дваццаць гадоў! Але цяпер адсутнічае наш татулечка — паехаў, мілы, з журналістамі на сяло: глядзець новую ферму з бычкамі... А потым з сілавікамі — першынство па бадмінтоне на прызы султанскага клуба.

— Я рады! — крычу я ў адказ.

— А ўжо якія мы радзенькія: такія гарызонты для краіны адкрываюцца — новыя інвестыцыі струменяць, пажыўныя для цел і душаў тэхналогіі на ахове здароўя да нас нарэшце праточваюцца.

— То перадайце кляшчу, — крычу яшчэ. — Каб ён... каб ішоў ён... што я яго... люблю і паважаю.

# Будслаўскі фэст

Сёлетні фэст у гонар Маці Божай Будслаўскай пройдзе 6–7 ліпеня і стане падрыхтоўкай да 400-гадовага юбілею прысутнасці тут цудадзейнага абраза, што адбудзецца ў 2013.

**Праграма святкаванняў:**

**6 ліпеня (пятніца)**

13.00–17.00 — сустрэча і прывітанне пілігрымаў;
18.00 — святая Імша для пілігрымаў;
20.30 — Акафіст (хор Грэка-каталіцкай Царквы);
23.00 — святы Ружанец;
24.00 — працэсія і святая Імша.

**7 ліпеня (субота)**

02.00 — распачынаецца моладзевая праграма ў палатачным гарадку;
02.00 — святая Імша паводле грэка-каталіцкага абраду;
05.30 — Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі;
06.00 — святая Імша (цэлебруюць айцы бернардынцы);
07.30 — святы Ружанец;
09.00 — святая Імша;
11.00 — святая Імша (падчас літургіі адбудзецца малітва за асобаў, якія адзначаюць 25-ці 50-гадовы юбілей — святарства, законнага жыцця або сужэнства). Выстаўленне Найсвяцейшага Сакрамэнту, працэсія.

Пешыя пілігрымкі да Будслава (Мядзельскі раён) будуць выходзіць з розных гарадоў і парафій краіны.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## ФУТБОЛ

### 18 тур

Працягваецца першынства краіны па футболе. У суботу і нядзелю адбудуцца матчы наступнага тура.
**7 ліпеня** сустракаюцца:
«Нафтан» (Наваполацк) — «Белшына» (Бабруйск),
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Брэст»,
«Шахцёр» (Салігорск) — БАТЭ (Барысаў).
**8 ліпеня:**
«Гомель» — «Мінск»,
«Дынама» (Мінск) — «Нёман» (Гродна).

## БАСКЕТБОЛ

### Беларусь — Украіна

Дзяўчаты са зборнай Беларусі правядуць апошнюю гульню ў адборы да чэмпіяната Еўропы. Супернікамі будзе Украіна. Матч пройдзе ў Палацы спорту. Пачатак у 19.30.

## ІМПРЭЗЫ

### Фестываль шаманскай музыкі

**14 ліпеня на хутары «Шаблі»** пройдзе фестываль шаманскай музыкі, у якім возьмуць удзел музыкі з Расіі, Літвы і Латвіі. Сярод удзельнікаў — расійскі гурт «Оле Лукое» (Расія), літоўскі музыка Саўлюс Пятрэйкіс (Saulius Petreikis), які грае на інструментах з усяго свету: ад індыйскай бансуры да кельцкіх свісткоў.

### POVIDLO 6

**7 ліпеня ў спарткомплексе «Лагойск»** пройдзе начны фестываль электроннай музыкі POVIDLO 6 (ethno, trance, drum&bass). «Гэта будзе не проста Open-air! — гавораць арганізатары. — Неверагодная выбуховая сумесь з пластычных тэатраў, капаэры, трайбла, фаер-шоу ў адным месцы і ў адзін час з этна-трансоа, чыл-аутам і драм-н-басам дапаможа вам адчуць усю палітру эмоцый і стыхій!»

## КАНЦЭРТЫ

### Сны над Віцебскам

**7 ліпеня а 19-й у Філармоніі, у Малой зале імя Р.Шырмы** — музычна-сцэнічная дзея «Сны над Віцебскам», прымеркаваная да 125-годдзя Марка Шагала. Выконвае ансамбль салістаў «Класік-авангард».

### Тэраканта

**6 ліпеня а 18-й на сцэне Малой залы Белдзяржфілармоніі** выступае ансамбль лацінаамерыканскай фальклорнай музыкі «Тэраканта». Рэпертуар трыа прадстаўлены традыцыйнымі жанрамі лацінаамерыканскай музыкі: ла танада, мерэнге, пасадобль.



### Extreme Power Fest

**6—7 ліпеня на базе адпачынку «Дынама» пад Магілёвам** пройдзе фестываль музыкі і вулічных відаў спорту Extreme Power Fest. Возьмуць удзел «Мангол шуудан», «ТТ-34», «Адзіс Абеба», «Дай Дарогу!», «Мутнаевока», Naka, IQ48, «Сэрца Дурака», Jazz City Band, «6 старонак назад» (Расія), «НеАўстралія».

## ВЫСТАВЫ

### Я проста ў далёкай вандроўцы



**У Палацы мастацтва (Казлова, 3) да 15 ліпеня** працуе мемарыяльная выстава Вячаслава Дубінкі «Я проста ў далёкай вандроўцы», прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння мастака. Вячаслаў Дубінка адрадзіў амаль забыты ў сучаснай Беларусі жанр выцінанкі. Яго творы ўпрыгожваюць музейныя экспазіцыі ў розных краінах, выдаваліся асобным альбомам, імі ілюстраваліся кнігі.

### Выстава адной карціны

**У Мастацкім музеі да 16 ліпеня** працуе выстава адной карціны Барыса Казакова: «Краявід ХХ стагоддзя. Дарогі, па якіх ніхто не ходзіць».

### Экзістэнцыя. Спосаб быцця чалавечай асобы

**У Палацы мастацтва (Леніна, 20) да 15 ліпеня** працуе выстава жывапісных палотнаў і інсталяцый Аляксандра Малея «Экзістэнцыя. Спосаб быцця чалавечай асобы. Глядач можа заўважыць, што творы майстра вельмі падобныя да працаў К.Малевіча, але, развіваючы тэндэнцыі супрэматызму, у сваіх інсталяцыях А.Малей ператварае двухмерныя кампазіцыі ў трохмерныя кубасупрэматычныя аб'екты, ствараючы новае візуальнае асэнсаванне духоўных каштоўнасцяў сучаснасці.

### Анджэй Аліва і Томаш Ціхы

**Да 14 ліпеня ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава скульптуры Анджэя Алівы /Ondřej Oliva і жывапісу Томаша Ціхага /Tomas Tichy (Чэхія).

### Веткаўскія абразы

**Да 23 ліпеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Веткаўскія абразы XVIII—XIX стст. у шытых бісерных акладах». На выставе паказана 50 прадметаў: абразы ў акладах, асобныя бісерныя оклады на абразы.

### Валіза

**У Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10) да 22 ліпеня** працуе выстава Ірыны Дзёмінай «Валіза». На выставе прадстаўленыя вырабы са скуры — 7 непаўторных валізаў.

### Другая варона

**Да 7 ліпеня ў Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва** працуе выстава жывапісу Міхаіла Шыкава «Другая варона». Аўтар вядомы як архітэктар Беларускага павільёна на 54 біенале сучаснага мастацтва ў Венецыі, вялізную прастору якога запоўніў 3-павярховымі канструкцыямі. У жывапісе Міхаіл Шыкаў больш мінімалістычны, ягоныя працы нагадваюць працы беларускіх мастакоў 1980—1990.

## ТЭАТРЫ

### 4 ліпеня

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 5 ліпеня

**Юнага гледача** — «Вандраванне ў княства Сноў»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсэн»

### 6 ліпеня

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсэн»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»

### 8 ліпеня

**Купалаўскі** — «Офіс»

### 9 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 10 ліпеня

**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 11 ліпеня

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 12 ліпеня

**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### 13 ліпеня

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 15 ліпеня

**Купалаўскі** — «Офіс»

## КІНО

### Сэрца прынцэсы

**Храбрая сэрцам** (Brave)
ЗША, 2012, каляровы, 100 хв, 3-D
**Рэжысёры:** Марк Эндрус, Брэнда Чэпмэн, Стыў Пурсэл
**Жанр:** Анімацыйная казачная прыгоды
**Адзнака:** 6 (з 10)

Прынцэса Мерыда — найстарэйшая дачка ў сям'і. Дзяўчына любіць скакаць на кані і страляць з лука. Матуля рыхтуе прынцэсу да шлюбу. Але Мерыда зрывае турнір жаніхоў і ўцякае ў лес. Там яна знаходзіць падступную вядзьмарку. Сустрэча была фатальнай памылкай…

Мультфільм Марка Эндруса і Брэнды Чэпмэн — празрыстая казка для непаслухмяных дзяўчынак-падлеткаў і іхніх суровых матуляў. Упартая прынцэса, ейныя брацікі — абʼядары і шкоднікі, дурнаватыя кароль і мудрая каралева, вядзьмарка, што прыкідваецца простай цясляркай, — не толькі настойлівыя і жывыя. Героі з гонарам (ці пратэстам) носяць цырыманіяльныя шаты, махаюць мячамі, выцірають вусны сурвэткамі. Нават дробныя дэталі ў гэтай анімацыйнай стужцы граюць, як у вялікім касцюмным кіно.

Зачараваная каралева трымае відэлец, цыцкастая служанка хавае ключ, а агнявыя валасы прынцэсы — гэта сонечны выбух. Як і многія сучасныя кіноказкі, «Храбрая сэрцам» — пра актыўных жанчынаў і камічных мужчынаў.

**Андрэй Расінскі**



# Колькі каштуе палячыць зубы

Некаторыя дзяржаўныя паліклінікі даганяюць па цэнах прыватнікаў.




Прапануем агляд цэнаў на найбольш запатрабаваныя паслугі ў шэрагу клінік.

### Кансультацыя

Паход да стаматолага пачынаецца з кансультацыі. Самая танная гэтая паслуга ў Мінскай абласной паліклініцы — ад 15 тысяч рублёў. У «Экамедсэрвісе» агляд і рэкамендацыі каштуюць 75 тысяч.

### Чыстка камянёў

Агульная гігіена — чыстка ад камянёў, паліроўка, накладанне фторлаку — нятанная паслуга. У абласной паліклініцы за абслугоўванне аднаго зуба давядзецца заплаціць ад 7 тысяч рублёў, у «Экамедсэрвісе» — да 35 тысяч за зуб. Пачысціць усе зубы ў 9-й стаматалагічнай паліклініцы не нашмат танней, чым у прыватнай клініцы «Ладэ» — каля 630 тысяч супраць 680. У «Белым насарогу» — прыблізна, як у абласной паліклініцы — ад 240 тысяч за ўвесь рот.

### Карыес

Залячыць карыес танней за ўсё ў абласной паліклініцы — ад 100 тысяч рублёў, на другім месцы па даступнасці цэнаў месціцца «Белы насарог» — 160—180 тысяч. У «Экамедсэрвісе» лячэнне карыесу абыдзецца ў 250—410 тысяч.

### Каналы

Лячыць каналы танней у дзяржаўных паліклініках: у абласной паслуга каштуе ад 230 тысяч за 1-канальны зуб, ад 280 за 2-канальны і ад 340 за 3-канальны. У «Экамедсэрвісе» і «Ладэ» за адзін залечаны канал бяруць па 220 і 250 тысяч адпаведна.

### Каронкі

Самыя танныя металакерамічныя каронкі ў абласной паліклініцы і «Белым насарогу» — ад 380 і 450 тысяч адпаведна. У «Ладэ» і «Экамедсэрвісе» такія каронкі каштуюць больш за мільён.

### Імплантацыя

Дэнтальная імплантацыя — адна з самых дарагіх аперацый у стаматалагічнай хірургіі. Дзяржаўныя паліклінікі прапануюць гэтую паслугу за 3,5—4 мільёны рублёў. У прыватнікаў яна сягае за 6 мільёнаў.

### Выдаленне

Іадна з самых непрыемных працэдур — выдаленне зуба. У залежнасці ад складанасці аперацыі яна каштуе ад 150 тысяч (9-я паліклініка) да 600 тысяч («Ладэ»).

### Ад чаго залежыць

Варта памятаць, што канчатковая цана паслугі можа істотна адрозніваецца ад той, якую вам паведамілі па тэлефоне ці якую вы пабачылі на сайце стаматалагічнай клінікі. Цана залежыць ад стану вашых зубоў і адпаведна ад складанасці лячэння. А таксама ад матэрыялаў і лекаў, якія вам прапануе стаматолаг.

Акрамя таго, высокая цана ў прыватных паліклініках апраўданая лепшымі ўмовамі і вышэйшым узроўнем абслугоўвання. Хоць дзеля справядлівасці варта адзначыць, што дзяржаўныя клінікі стараюцца не адставаць ад прыватнікаў. Напрыклад, у 9-й паліклініцы пацыентаў лечаць у кабінетах, разлічаных на аднаго хворага.

**Сямён Печанко**

Крык душы

# На інвалідаў і не інвалідаў — людзі так не дзеляцца!

Я пераканалася ў гэтым, калі патэлефанавала на чыгуначны вакзал з нагоды набыцця білета на лячэнне ў Крым.

Мне адказалі, што ўказам № 126 прэзідэнта РБ ад 01.03.2010 бясплатны праезд на лячэнне для інвалідаў першай групы адменены, і для суправаджальніка за 50% кошту — тое самае... Засталіся толькі інваліды ВАВ і Героі Працы. Але ж іх засталіся адзінкі. Вось як клапоціцца прэзідэнт пра сваіх грамадзянаў!

Наогул, я інвалід першай групы з прычыны траўмы апорна-рухальнага апарату ўжо 14 гадоў. Спачатку былі хоць нейкія льготы, транспарт быў бясплатным, былі даплаты на бензін, паступова знялі ўсё — засталіся толькі лекі за 10%, ды і тое беларускія з адмысловага спісу. Моцныя болі вымотваюць, ногі перыядычна ацякаюць, нельга абуць боты. У 2007 я была ў Саках на лекаванні брудам, дапамагло няшмат. І зараз вось я адкладала з пенсіі грошы на паездку і лячэнне ў Крым, ды выявілася — не лёс! Лячылася у санаторыі «Бярозка» ў Салігорску — гэта былы прафілакторый ААТ «Беларуськалій», але на ўсе працэдуры, акрамя першага паверха, дайсці не здолела.

Хаджу я з локцевымі мыліцамі пераважна па хаце, усе лесвіцы, бардзюры і іншыя

## Усё прададзена рускім?

ўзвышшы і няроўнасці для мяне недасягальныя. За ўвесь гэты час ні адзін сацыяльны работнік не адчыніў дзверы ў маю кватэру і не патэлефанаваў.

Чалавека па догляде могуць прызначыць, але дзеля гэтага трэба, каб ён быў не студэнтам, не пенсіянерам, не меў ніякага прыбытку і пражываў у адным населеным пункце — і хто гэта можа быць? Жонка багатага бізнесмена — дык навошта ёй патрэбная я? Тэлефаную з нагоды пуцёвак у аддзел сацзабеспячэння, кажуць: вы з 2002 года адмаўляецеся. Ну і дзе мой подпіс аб адмове? А ў 2010–2011 прапаноўвалі, але тады, калі холадна і слота.

Пытаюся, а ў летні перыяд — адказваюць: усё прададзена рускім! Так, сапраўды ўсё прададзена рускім — засталося прадаць нас!

Вось так і выжываем: інваліды — не інваліды! Прашу выпадковых людзей схадзіць у аптэку, на пошту, у краму! Муж ёсць, але ён на працы, а калі што тэрміновае — ну ўжо выбірай! Нядаўна дала адной жанчыне грошы, я яе пяць гадоў ведаю, усе просьбы добра выконвала, я ёй плаціла, праўда, яна п'е. Але вось папрасіла адправіць перавод, а яна прапіла гэтыя 250 тыс. рублёў і цяпер не прыходзіць. Непрыемна — бы ў душу плюнулі...

Але што ж зробіш! Вось такая проза жыцця! На выклік толькі тэрапеўт прыходзіць, іншыя спецыялісты не ходзяць, яны занятыя. Тэрапеўт цяпер на ўсе выпадкі жыцця.

Пра гэта можна казаць бясконца, але хто пачуе? Калі свайёй дзяржаве не патрэбныя яе грамадзяне, то каму яны патрэбныя наогул і здаровыя і хворыя?

**Марына Сідарэнка**

## Сцісла

### Робат-пераможца

У Японіі зрабілі робата, які заўсёды выйграе ў «камень-нажніцы-папера». Робат-рука Janken назірае за рукой чалавека пры дапамозе высакахуткаснай камеры і за адну мілісекунду па мікрарухах вызначае, што яму пакажа супернік: сімвал паперы, каменя альбо нажніцаў. Спробы падмануць робата, ні да чаго не прыводзяць — Janken усё адно хутчэйшы.

### Новыя правілы польскага Tax Free

Цяпер, перш чым прыехаць на беларуска-польскую мяжу па вяртанне падаткаў за набыты ў Польшчы тавар, можна зарэгістраваць свой чэк на сайце granica.gov.pl. На мяжы застаецца толькі паказаць тавар мытніку. Мяркуецца, што гэта скароціць час афармлення ў два разы.

### Падземны пераход на «Мінску-Усходнім»

На станцыі метро «Пралетарская» адкрыўся новы падземны пераход. Ён дазваляе выйсці адразу да платформы чыгуначнай станцыі альбо да аўтобуснай дыспетчарскай станцыі.

**ЯМ**


## Прыватныя абвесткі

**ВІНШУЕМ**

**Вольгу і Сяргея Кандраценкаў** з узяццем шлюбу. Жывіце дружна і павялічвайце сям'ю. Сябры і калегі.

**БЕЛАРУСКАМОЎНЫЯ БАЦЬКІ ШУКАЮЦЬ АДНАДУМЦАЎ**

**Працягваецца стварэнне беларуска-моўнай групы з дзетак 2010—2011 гадоў нараджэння** ў дзяржаўным дзіцячым садку раёнаў Сухарава і Каменнай Горкі. Запрашаем зацікаўленых тэлефанаваць па нумарах (029)701-43-22 (Алена), або (029)273-89-76 (Васіль).

**ШУКАЕМ ДЫРЭКТАРА ПА ПРОДАЖАХ**

ТАА «Шляхетныя вырабы» прыме на працу дырэктара па продажах.
Патрабаванні:
1. Веданне беларускай мовы
2. Досвед працы ў продажах (перамовы з дыстрыб'ютарамі, пастаўкі, размяшчэнне і г.д.).
3. Уменне якасна і прадуктыўна працаваць без непасрэднага кантролю.
4. Наяўнасць аўтамабіля і правы кіравання аўто.
Прапанова:
1. Рынкавая аплата працы.
2. Праца ў беларускамоўным калектыве з цікавымі людзьмі.
3. Па жаданні працоўнага магчымы вольны графік працы.
Свае прапановы дасылайце на jascanka@gmail.com, з пытаннямі званіце на (044) 730-79-04.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

**Усміхніцеся!**



На парад фізкультурнікаў 3 ліпеня вывелі і коней з цэнтра коннага спорту ў Ратамцы. Усё прадумалі, не прадумалі толькі іх натуральныя патрэбы.




ЗМІЦЕР

Вось такая налепка правісела ўвесь тыдзень у Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мінск.** Закрылася чарнасоценская газета «Минское слово», которая пяць гадоў таму была заложана Густавам Шмідам. Закрылася вось з якой прычыны: выдавец Скрынчанка, доктар Здановіч і др. адправілі ў Пецярбург жалабу на вікарнага архірэя Іаанна, што ён не так вядзе палітыку, як нябожчык архірэй Міхаіл. Архірэй пазваў да сябе жалабшчыкаў і паставіў ім варунак, што альбо яны для дабра «нацыянальнай» справы павінны ўзяць для кіравання газетай жыда выхраста Мэндэля Ш., або хай саўсім закрыюць газету на час выбараў у Думу. Скрынчанка абраў апошняе. Змясціўшы ў апошнім нумары колькі вострых стацей проці адміністрацыі. Гэты нумар канфіскавалі.

**«НН». №25. 1912.**

**Упершыню за тры гады ўвагу афіцыйнай Масквы прыцягнула праблема зніклых апанентаў Лукашэнкі.** У Думу нанеслі візіт сваякі ахвяраў рэпрэсій у Беларусі. Кіраўнікі праўрадавых фракцый Думы звярнуліся з лістом да Пуціна ды папрасілі ўмяшацца ў следства па гэтых справах.

**«НН». №25. 2002.**




GOALS.BY

**«Беларуская класіка»: БАТЭ — «Дынама» па сваім напале было не горшым за фінал Еўра. Госці з Мінска перамаглі 3:1. Барысаўцы засталіся незадаволеныя судзействам. Такую расцяжку фанаты БАТЭ вывесілі на сектары перад пачаткам сустрэчы.**



Каб узняць сабе настрой, дастаткова набыць пакуначак семак і наведацца ў парк.

## Анекдоты

* * *

У бар зайшоў дзяцюк. Бармэн:
– Чаго хочаце?
Дзяцюк, паказваючы на мужчыну, што з'ехаў пад стол:
– Мне тое самае.

* * *

Самая смачная смажаная бульба — гэта калі ты ясі яе рукамі з патэльні, пакуль ніхто не бачыць.

* * *

ДАІшнік тармозіць машыну:
– Вашы дакументы, сэр!
– Чаму я сэр?
– Бо едзеце па левым боку дарогі.

* * *

Абвестка: «Сумны клоўн дапаможа вашаму дзіцяці адзначыць трыццацігоддзе».

* * *

З падслуханай у краме размовы:
— Можа, піва?
— Ды не, давай гарэлкі.
— Блін, ну мы ж на працы...
— Дык мы ж песень спяваць не будзем.
— А вось хрэн яго знае...

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.
8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8105. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 03.07.2012.
Замова № 2317.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12